

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 10(81) Кастрычнік 2000 October Год выд. 8.


# 89 МІЛІМЭТРАЎ АД ЭЎРОПЫ

***Размова з Альбінам Абрагамсонам швэдзкім журналістам, аўтарам кніжкі "Беларусь - 89 мілімэтраў ад Эўропы".***

Альбін Абрагамсон гэта швэдзкі журналіст, які шмат гадоў быў карэспандэнтам ва ўсходнім рэгіёне Эўропы. Ён аўтар кніжкі "Беларусь - 89 мілімэтраў ад Эўропы". У час праведзенага ў Крынках у ліпені 2000 году Беларускага Трыялёгу, сарганізаванага Асацыяцыяй Віля Сакратэс, выступіў ён з дакладам на тэму стану ведаў пра Беларусь у Швэцыі ды пра супольную гісторыю абедзьвюх краінаў.

**Чаму, на вашую думку, людзі ў Швэцыі няшмат ведаюць пра беларускую краіну?**

Найчасьцей людзі шмат ведаюць пра сваіх суседзяў. Але так ня ёсьць, калі гаварыць пра стан ведаў аб Беларусі ў Швэцыі. На маю думку, гэтая краіна стала вядомай у сьвеце, дзякуючы спадару Лукашэнку. Раней мы амаль нічога ня ведалі ў Швэцыі пра Беларусь. Дзеля прыкладу, я магу сказаць, што апошнім часам на выдавецкім рынку ў Швэцыі паявілася новая энцыкляпэдыя, а ў ёй пра вядомага Беларуса Францішка Скарыну нават ня ўзгадваецца. Дык людзі ў Швэцыі патрабуюць шмат інфармацыі, каб даведацца нечага пра сваіх амаль-суседзяў.

А калі ўжо канкрэтна адказваць на вашае пытаньне, чаму ў Швэцыі няшмат ведаюць пра Беларусь, то, на маю думку, першай прычынай такога стану зьяўляецца факт, што Беларусь гэта недэмакратычная краіна. У Швэцыі няма нават амбасады Рэспублікі Беларусь. Няма таксама ні беларускіх карэспандэнтаў, ні бізнэсмэнаў. Дарэчы, швэдзкія бізнэсмэны таксама ня вельмі ахвотна наладжваюць гандлёвыя кантакты зь Беларусяй, таму што ў гэтай краіне зачаста мяняюцца законы ды выдаюцца ўсё новыя дэкрэты.

Што магчыма зрабіць сёньня, мабыць будзе забароненае заўтра. Людзі бізнэсу патрабуюць для сваёй працы ясна акрэсьленага заканадаўства. Дык, на маю думку, недэмакратычныя законы гэта прынцыповая справа, якая зьнеахвочвае людзей у Швэцыі да наладжваньня кантактаў зь беларускай краінай.

**Але, вы гаворыце толькі пра сучасныя прычыны. А што зь гісторыяй абедзьвюх краінаў?**

Швэцыя ў гісторыі мела заўсёды не найлепшыя суадносіны з краінамі Ўсходу, але была зацікаўленая ў экспансіі ў паўночна-ўсходнім рэгіёне Эўропы. У сваёй кніжцы "Беларусь -- 89 мілімэтраў ад Эўропы" я стараюся паказаць, што Беларусь і Швэцыя цягам стагодзьдзяў мелі шмат супольнага, асабліва -- супольнай гісторыі. Маім меркаваньнем, трэба пашыраць інфармацыю пра супольную мінуўшчыну дзеля лепшай будучыні.

**Будучы карэспандэнтам у Маскве Вы часта езьдзілі ў Беларусь. Пасля гэтых падарожжаў Вам удалося напісаць кніжку "Беларусь - 89 мілімэтраў ад Эўропы".**

Гэта ўжо мая шостая кніжка. Каб зразумець яе загаловак, каб даведацца, пра што йдзе гаворка, чалавек, які ніколі не перасякаў усходняе мяжы Беларусі, мусіць прачытаць цэлую кніжку. Яе вельмі прыхільна ацанілі крытыкі ў Швэцыі. На пачатку выдавецтва выпусьціла на кніжны рынак тры тысячы паасобнікаў, потым яшчэ дзьве тысячы, а цяпер, цягам некалькіх тыдняў, друкарня дадрукуе яшчэ толькі. Я вельмі задаволены, што зацікаўленьне гэтай тэмай сапраўды вялікае.

**Вы пісалі гэтую кніжку з пункту гледжаньня журналіста, гісторыка ці можа яшчэ некага іншага?**

Як заўсёды ў сваіх кнігах, я стараюся спалучыць гісторыю ды сучаснае жыцьцё грамадзтва й краіны, якую апісваю. Некаторыя крытыкі -- я мушу ў гэтым прызнацца -- называюць мяне швэдзкім Рышардам Капусьцінскім. Гэта, зразумела, перабольшанае параўнаньне, але я хачу толькі паказаць жанр, у якім узьнікаюць мае кнігі. Для мяне вельмі важным зьяўляецца тое, каб, пішучы кнігі, пісаць іх як найпрыгажэйшай мовай. Астатнія кнігі, прысвечаныя іншым краінам, якія можна сустрэць на швэдзкім выдавецкім рынку, напісаныя вельмі беднай мовай. Аўтары не стараюцца паказаць кантэкст краіны, спэцыфічныя словы, зьявы. Для мяне гэта зьяўляецца вельмі важным.

**Мы нашу размову праводзім на літаратуразнаўчай канфэрэнцыі "Беларускі Трыялёг". Аднак так часта, як пра літаратуру, удзельнікі гавораць тут пра палітыку, пра нацыянальныя меншасьці. З чаго гэта вынікае?**

Маім меркаваньнем, гэта паказчык сучаснага настрою людзей. Я думаю, што ўсе мы, як Беларусы, гэтак і прадстаўнікі іншых нацыяў, вельмі занепакоеныя эканамічнай і палітычнай сытуацыяй у Беларусі. Мабыць, гэта адна з прычынаў, чаму не гаворым тут выключна пра літаратуру.



**Спадар Алег ШНЭК —**

**ведамы нацыянальна-грамадзкі дзеяч у Мэльбурне, Аўстралія, сябра шматлікіх беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі, прапагандыст беларускае незалежніцкае ідэі, стойкі патрыёт свайго народу.**

**Паважаны Алег! Вітаем Цябе на старонках нашае незалежнае газэты.**



## Спачатку Мілошавіч. Наступны – Лукашэнка?

Афіцыйныя ўлады Югаславіі надрукавалі раніцай 27-га верасьня вынікі прайшоўшых у нядзелю ў гэтай краіне прэзыдэнцкіх і парлямэнцкіх выбараў. Па дадзеных Цэнтарвыбаркама, кандыдат ад апазыцыі Каштуніца набраў 48,22% галасоў, а цяперашні прэзыдэнт Мілошавіч – 40,23%. На думку ЦВК трэба праводзіць другі тур.

Гэтае паведамленьне выклікала абурэньне ў Югаславіі. Мяркуючы па ўсім, дэпутат ад сэрбскае апазыцыі Войслаў Каштуніца сапраўды выйграў прэзыдэнцкую гонку ў дыктатара Мілошавіча ў першым туры. Практычна ўсе наглядальнікі – ад самой апазыцыі да аўтарытэтных міжнародных структураў і СМІ пагаджаюцца на суадносіны галасоў 55% за Каштуніцу і 35% -- за Мілошавіча.

Пасьля 13 год кіраваньня, большую частку зь якіх Югаславія знаходзілася ў крывававай грамадзянскай вайне, Мілошавіч вымушаны разглядаць варыянты – як яму лепш сысьці. Гэты чалавек аб'яўлены міжнародным вайсковым злачынцам, у выпадку выезду за мяжу яго чакае міжнародны трыбунал у Гаазе, калі ён застанецца ў Югаславіі, дык знойдзецца нямала ахвотнікаў адпомсьціць дыктатару за дзесяцігодзьдзе пакутаў, прынесеных гэтай краіне. У якасьці варыянта разглядаецца нават ягоная эміграцыя ў Расею...



**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364
E-mail: bdigest@iserv.net
Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.




**За праўду і справядлівасьць!**

**Мы – народ Беларусі!**

**Мы маем права на свабоду!**

Дзесяцігодзьдзямі цынічныя і сквапныя асобы спрабавалі затаптаць у бруд нашую годнасьць. Доўгія гады над Беларусьсю бушавалі віры войнаў, забіраючы жыцьці лепшых з нас. Мы трацілі дзядоў, бацькаў і братоў.

Яны ваявалі за тое, каб жылі мы.

Яны гінулі зь верай ў тое, што мы ня будзем стаяць на каленях за міску таннай пахлёбкі.

Яны хацелі, каб мы жылі ў міры, будавалі дамы і вырошчвалі хлеб. Каб мы былі моцнымі і справядлівымі. Каб мы верылі ў Бога, а не цара.

**Мы маем права на незалежнасьць!**

Зь Беларусі вякамі хацелі зрабіць прахадны двор з Азіі ў Эўропу. Нашую краіну называлі "зборкавым цэхам" і "транзітнай зонай". Але нашая радзіма ня "цэх" і ня "зона"; нашая Радзіма – Беларусь.

Тут нам жыць і расьціць дзяцей. Тут нам працаваць і адпачываць. Тут мы павінныя зарабляць, а не прасіць міласьціну; радавацца жыцьцю, а не тапіць маладосьць у гарэлцы; забясьпечваць старым вартую старасьць, а не таннае пахаваньне; любіць, а не ненавідзець.

Мы абавязаныя жыць так, кам нам зай- здросьцілі. Сьвет павінен даведвацца пра Беларусь не па ўчынках адной нятрапнай пэрсоны, а па талентах яе грамадзянаў: па кнігах новых Быкавых і па карцінах новых Малевічаў і Шагалаў; па спартовых дасягненьнях новых Шчэрба і Корбут.

**Мы маем права выбіраць сабе ўладу!**

Наш выбар можа падвяргацца цэнзуры з боку гурта дробных стратных асобаў, якія прагнуць бязмежнае улады над намі.

Наш выбар вышэйшы за загады і дэкрэты – наш выбар ёсьць закон! Калі гэты закон нехта ня хоча выконваць – мы абавязаныя яго пры- мусіць. Прымусьці паважаць нашую волю – волю дзесяці мільёнаў грамадзянаў.

**Мы вартыя лепшага жыцьця!**

Нам доўгія гады тлумачылі, што добрае жыцьцё – гэта толькі «чарка і шкварка». Не, вартае жыцьцё – гэта цікавая высокааплочваемая праца, якасная мэдыцына, добрая адукацыя для дзяцей і паездкі па сьвеце.

Амэрыканцы пабудавалі вялікую краіну за 200 год, – у іх былі толькі розум і воля. За дзесяць год адрадзілі свае дзяржавы палякі і чэхі, балты і венгры, харваты і славенцы. Зараз яны жывуць камфортна і сытна. Яны хацелі стаць вольнымі людзьмі – і сталі. Яны хацелі дабрабыту – і атрымалі яго.

Мы гэтак сама, як і яны, таленавітыя і працавітыя. Мы таксама жадаем шчасьця сваім дзецям, дабрабыту і радасьці для сябе. Мы таксама майстравітыя і моцныя. Нам неабходна толькі захацець зьмяніць сваё жыцьцё да лепшага.

**Захацець і зрабіць!**

Мы абавязаныя змагацца за свае правы дзеля перамогі праўды і справядлівасьці. Дзеля нашых дзяцей.

Толькі разам мы пераможам! Толькі разам мы пабудуем наш дом!

**Жыве Беларусь!**

# AMERICAN AND CANADIAN BELARUSIANS RECEIVE A MESSAGE FROM GEORGE W. BUSH

On September 2, 2000, under the sunny skies of Strongsville, Ohio, the four-hundred-strong 24th Biennial Convention of Belarusian-Americans and Belarusian-Canadians was warmly welcomed by Mayor Walter F. Ehrnfelt. The mayor congratulated the Belarusian Christian Orthodox community on their newly built church and urged them to pass on Belarusian traditional values and language on to the younger generation. The Governor of Ohio, Bob Taft, in his address to the Convention, conveyed greetings from presidential candidate George W. Bush and praised Belarusian-Americans for their contribution to the economy and cultural tapestry of the United States. The next day, after a religious service United States Senator George V. Voinovich was the recipient of the Third Belarusian American Freedom Award. Senator Voinovich exhorted his audience to be aware of potential dangers that could come from the remnants of the Soviet dictatorial mentality and to continue working on behalf of a free and independent Belarus.

Other speakers at the convention included Ms. Ivonka Survilla, President of the Rada (Council) of the Belarusian Democratic Republic in Exile, Mr. Siamion Sharetski, Speaker of the 13th Supreme Council of the Republic of Belarus (now in exile in Lithuania), and Mr. Zianon Pazniak, Chairman of the Conservative Christian Party of the Belarusian Popular Front (now in exile in Poland). Written statements were also received from numerous local and federal officials.

The Convention was organized by the Belarusian American Association (BAA) and the Belarusian Canadian Alliance and was also sponsored by the Belarusian American Community Center "Polacak" and the Mother of God of Zyrovicy Belarusian Autocephalic Orthodox Church and chaired by Mr. Paul Wasilewski, chairman of the Cleveland chapter of BAA.

The following Resolution was unanimously adopted by the Convention.

## RESOLUTION
## of the 24th Convention of Belarusians of North America
## Cleveland, Ohio, USA.
## September 3, 2000

WHEREAS Americans and Canadians of Belarusian origin are very concerned with the state of affairs in the country of their ancestry, Belarus, and desirous of contribution to the progress of democracy, independence and well-being of the Belarusian people; and

WHEREAS the political and economic situation in Belarus has been worsening in recent years because of the egregiously undemocratic policies of (now no longer legitimate) president Alaksandar Lukashenka; and

WHEREAS Lukashenka's dictatorial regime has been violating the constitutional foundation of the country and undermining the state sovereignty of the Republic of Belarus through a series of agreements with Moscow in order to satisfy Lukashenka's personal ambition to play a leading role in a larger Russian-Belarusian political arena; and

WHEREAS there have been a series of disappearances in Belarus of prominent opposition leaders (some of them alleged to be killed with the complicity of the government), thousands of unwarranted arrests and beatings of NGO and labor activists, countless show trials and imprisonment of opposition activists, and innumerable cases of violation of human rights of citizens; and

WHEREAS Lukashenka's government, with ethnic Russians holding key government positions, has been consistently conducting a policy of Russification by exclusive use of Russian in official business and discrimination against Belarusian national culture, Belarusian-language education and mass media; and

WHEREAS mediation by international representatives (e.g., OSCE, Council of Europe, European Parliamentary Assembly) on behalf of democracy, justice and fairness has brought no significant results (to a large degree because Moscow supports Lukashenka as its principal stooge in Belarus);

THEREFORE we, the participants in the 24th Convention of Belarusians of North America, unanimously resolve to:

CONTINUE working in defense of the Belarusian people's right to live in a democratic and independent Belarus;

EXPOSE the Lukashenka regime for what it really is -- a dictatorship that threatens the security of Western Europe and the North Atlantic Community of Democracies by acting as a willing agent of Russian imperialism;

WORK toward consolidation of the democratic opposition to the Lukashenka regime both in Belarus and abroad;

URGE American and Canadian authorities and the business communities to exert more pressure on official Minsk to put an end to the persecution of defenders of democracy and national culture in Belarus as well as the cultures of national and religious minorities, and to respect the country's right for independence;

EXPRESS GRATITUDE to the United States Congress for passing Resolution 304 which condemned political oppression in Belarus and called upon the U.S. Government to act, both in Minsk and Moscow, on behalf of democracy in Belarus and preservation of its sovereignty and independence;

TO THANK PERSONALLY Congressmen Sam Gejdenson, Christopher H. Smith and Benjamin Gilman and Senators Jesse Helms, Ben Nighthorse Campbell and Richard Durbin, as well as Messrs. Harold H. Koh, Ross Wilson and John L. Armstrong of the State Department, and many other officials within the U.S. Government and Congress, for their outstanding contribution to the defense of democracy in Belarus and the country's independence.

***Паважаныя Суродзічы! Просім пераслаць Вашую ахвяру на "Беларускі Дайджэст"... Дзякуем!***

# Ці захавае Беларусь сваю незалежнасьць?

**На 24-й Сустрэчы (Biennial Convention) беларусаў Паўночнае Амэрыкі**

На пачатку верасьня ў Кліўлендзе, у беларуска-амэрыканскім грамадзкім цэнтры "Полацак" адбылася чарговая двухгадовая традыцыйная Сустрэча беларусаў Злучаных Штатаў і Канады. На гэты раз яна была даволі прадстаўнічай: сюды прыехалі імігранты розных пакаленьняў, якія жывуць сёньня ў Нью-Йорку, Лос Анжэлесе, Нью-Джэрсі, Чыкага, Філадэльфіі, Бостане, Фларыдзе, Таронта, Атаве, Манрэалі, у ва многіх іншых рэгіёнах Паўночнае Амэрыкі. Цёпла сустрэлі ўдзельнікі ганаровых гасьцей, сярод якіх былі Сямён Шарэцкі, старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь XIII скліканьня, які жыве цяпер у выгнаньні, і Зянон Пазьняк, старшыня Кансерватыўна-Хрысьціянскай партыі БНФ "Адраджэньне".

Удзельнікі Сустрэчы беларусаў атрымалі вітальныя віншаваньні ад кандыдата ў прэзідэнты ЗША Джорджа Буша, ад Сенату і Кангрэсу штата Огайо, ад мэра горада Кліўленда. Спецыяльна наведалі сустрэчу і выступілі перад яе ўдзельнікамі губернатар штата Огайо Боб Тафт, сенатар ад гэтага штата Джордж Вайновіч, мэр горада Кліўленда Майкл Вайт і Валтэр Ірнфэлт, мэр прыгарада Стронгсвілл, дзе месьціцца цэнтр "Полацак".

Ва ўсіх афіцыйных прамовах, у неафіцыйных гутарках, размовах і дыскусіях на гэтай Сустрэчы гучала глыбокая трывога і сур'ёзная занепакоенасьць тым, што сёньня адбываецца на нашай Бацькаўшчыне, у Рэспубліцы Беларусь. Дыктатарскі рэжым у краіне ўзмацняецца, паўсюль парушаюцца элементарныя правы чалавека, ідзе перасьлед тых, хто думае іначай, заціскаюцца незалежныя сродкі масавай інфармацыі. Рэзка падае ўзровень жыцьця насельніцтва, ідзе шырокі наступ на беларускую мову, выцясьненьне беларускай нацыянальнай культуры і духоўнасьці. Стаў звычайнай практыкай паліцэйска-судовы перасьлед людзей па палітычных матывах; многія людзі бязсьледна зьнікаюць. Асабліва ўсхваляваны былі ўсе ўдзельнікі сустрэчы, што прайшла ў Кліўлендзе, маючай адбыцца інкарпарацыі Беларусі ў Расію, пагрозай поўнай страты дзяржаўнасьці, суверэнітэту і незалежнасьці рэспублікі.

Нам удалося пагутарыць з некаторымі вядомымі гасьцямі сустрэчы беларусаў Паўночнае Амэрыкі. Падаліся вельмі цікавымі іх ацэнкі сітуацыі ў Беларусі, іх прынцыпова новы крытычны падыход да многіх асьпектаў палітыкі Лукашэнкі і новых зьяваў у палітыцы Расіі.

**Сямён Шарэцкі,** старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь XIII скліканьня, які цяпер жыве ў выгнаньні.

У нашай рэспубліцы сёньня пануе антыбеларускі прарасейскі дыктатарскі рэжым. З усіх значных дзяржаўных і іншых пасад здымаюць беларусаў, і іх мейсцы займаюць рускія. Як правіла, гэта прадстаўнікі ўсё таго ж Камітэта дзяржаўнай бясьпекі – КДБ, які ў Расіі цяпер завецца ФСБ. Пачынаючы ад мітрапаліта Філарэта, які ўзначальвае ў нас праваслаўную царкву, і да цяперашняга старшыні Савета міністраў Ярмошына – усё гэта расейцы, прысланыя ў Мінск з Масквы, усе былі палкоўнікамі ці падпалкоўнікамі КДБ. Самы апошні факт: зняты Рыгор Кісель, кіраўнік радыё і тэлебачаньня рэспублікі, між іншым, беларус і даўні сябра самога Лукашэнкі, і на ягонае мейсца прызначаны Віктар Чыкін, рускі, камуніст, першы сакратар кампартыі ў Беларусі. Гэтак жа ў свой час замянілі віцэ-прэм'ераў, сілавых міністраў, міністра замежных спраў, абароны, юстыцыі, губернатара Брэсцкай вобласьці і іншых, замянілі толькі за тое, што яны былі беларусамі. Таму можна зрабіць вывад, што цяперашні ўрад у рэспубліцы – гэта акупацыйны расейскі ўрад. Падкрэсьліваю, зьвярніце на гэта ўвагу: мы маем справу не з нацыянальным дыктатарскім рэжымам, а з расейскім шавінізмам, з рэжымам акупацыйным па сваёй сутнасьці, які арганізаваны і кантралюецца ФСБ іншай,



Сямён Шарэцкі.

суседняй у дадзеным выпадку дзяржавы. Гэта вельмі важна ўлічваць і апазіцыі, і прадстаўнікам іншых дзяржаў – палітыкам і бізнесмэнам. Улады Злучаных Штатаў, Канады, іншых дзяржаў сьвету павінны зразумець, што няма аніякага самастойнага лукашэнкаўскага рэжыму, гэта – рэжым сучасных чэкістаў, рэжым прадстаўнікоў ФСБ Расіі.

Наш Вярхоўны Савет працягвае працаваць, збіраюцца яго сесіі па меры магчымасьці. Мы стараліся зьвярнуць увагу міжнароднага супольніцтва на тое, што цяперашні рэжым ёсьць юрыдычна незаконны, нелегітымны. Сёньня і наша задача, і задача ўсіх апазыцыйных сілаў – зрабіць усё, каб не легітымізаваць яго ізноў. Калі адбудуцца прэзыідэнцкія выбары, якія хоча правесьці Лукашэнка ў наступным годзе, то, хутчэй за ўсё, ён пераможа ізноў, таму што ва ўмовах дыктатуры выбары ня могуць быць свабоднымі і дэмакратычнымі, будуць ізноў тыя адсоткі "за", якія патрэбныя Лукашэнку. Наша задача сёньня – пераканаць міжнародную супольнасьць не ісьці за Лукашэнкам, не ісьці на вяроўцы за ягонай дыктатурай.

І Лукашэнка, і Пуцін – гэта людзі з аднаго гнязда, гэта, вобразна кажучы, выкармышы Андропава. Пуцін адшпіліў 300 млн. даляраў Лукашэнку, калі яшчэ толькі стаў расейскім прэм'ерам. Беларусь і раней, і цяпер – своеасаблівая лабараторыя, дзе адпрацоўваліся метады ўстанаўленьня дыктатарскага рэжыму. І мы бачым, што сёньня ў Расіі ў гэтым сэнсе выкарыстоўваецца многае з таго, што ўжо прайшло выпрабаваньне ў нас у Беларусі. Не выпадковая і нейкая сінхроннасьць у дзеяньнях дыктатараў. Лукашэнка быў у Мілошавіча, нядаўна сустрэўся з Кастра. Пуцін шукае станоўчы вопыт у дыктатуры ў Паўночнай Карэі. Абодва кажуць пра свае добрыя адносіны з Саддамам Хусэйнам. Рукамі Беларусі прадаецца расейская зброя дыктатарскім рэжымам. У барацьбе за незалежнасьць Беларусі мы сёньня маем справу з расейскім імперскім шавінізмам, на службу якому пастаўлены і пуцінскія ініцыятывы, і знешняя палітыка, і эканоміка, і руская праваслаўная царква, -- дзеля гэтага не шкадуюцца ні сродкі, ні людзі.

Хачу зьвярнуць вашу ўвагу і на тое, што ўзмацненьню вялікадзяржаўнасьці і новых парадкаў у Расіі спрыялі і амэрыканскія грошы. Амэрыканскія гранты разлагаюць і нашу апазіцыю: даюць іх, напрыклад, тым, хто цяпер у Беларусі пайшоў прымаць удзел у парляменцкіх выбарах, пайшоў фактычна пад-



Губэрнатар штату Огайо Боб Тафт размаўляе з Анатолем Лук'янчыкам.

трымліваць рэжым. Я гаварыў пра гэта, выступаючы нядаўна ў Кангрэсе ЗША, называючы і канкрэтныя прозьвішчы… Часам цяжка зразумець нават цяперашняга вашага прэзыдэнта. Вось прыклад. Лукашэнка едзе ў Маскву, выступае з трыбуны цяперашняй Дзярждумы Расіі, груба і непрыстойна зьневажае Дзяржсакратара Мадэлен Олбрайт, а праз колькі дзён спадар Клінтан паціскае Лукашэнку руку пры сустрэчы, робіць выгляд, што нічога не адбылося. Як усё гэта зразумець?

Мы стараемся казаць пра ўсё гэта, пераконваць. Але варта толькі на нашай радзіме каму-небудзь сказаць праўду, – пачынаюцца перасьлед, звальненьні з працы. Да таго ж людзі зьнікаюць, многія зьніклі ўжо бязсьледна. Трэба аб'ядноўвацца, таму што ствол ня можа быць без галінаў. Беларусь, беларускі народ – ствол, дыяспара ў розных краінах – ягоныя галіны. І, магчыма, тут, у дыяспары, трэба пачынаць выхоўваць нацыянальныя кадры для будучай свабоднай і незалежнай беларускай дзяржавы.

Вы пытаецеся, як мне асабіста жывецца за межамі Беларусі? Вельмі цяжка і складана. Я – у выгнаньні, не мог нават паехаць у родныя мясьціны на пахаваньне маці. Жыву ў Вільнюсе, добра яшчэ, што літоўскія ўлады неяк падтрымліваюць, далі ахову.

**Івонка Сурвіла,** старшыня Рады БНР. Наша Рада – гэта беларускі парлямент і беларускі ўрад у выгнаньні. Мы – нашчадкі той, першай Рады, якая была ўтворана на Першым Усебеларускім кангрэсе і якая



Адна з групаў удзельнікаў Сустрэчы.

вымушана была эміграваць з Беларусі ў 1918 годзе ў сувязі з захопам улады бальшавікамі. Наша адзіная мэта – усімі магчымымі сродкамі дамагацца суверэнітэту і незалежнай дзяржаўнасьці нашаму роднаму краю – Беларусі. Дзякуючы дзейнасьці нашай Рады ідэя незалежнасьці ўвесь час жыла ў народзе, і ў пачатку дзевяностых гадоў наша рэспубліка стала суверэннаю і незалежнаю. Але цяпер дзяржаўная самастойнасьць Беларусі зноў фактычна страчаная: пагражае поўны аншлюс нашай дзяржавы Расіяй. Сёньня пад пагрозай самое існаваньне беларускага народу, яго мовы, культуры, духоўнасьці. Беларусь і яе народ зноў апынуліся на мапе зьняволенных народаў, і наша задача – прыцягнуць да гэтага ўвагу ўрадаў усіх краінаў, парляментаў, усёй сусьветнай грамадзкасьці.

Тут, у Кліўлендзе, адбылася сесія нашай Рады, мы ўнесьлі зьмены ў наш статут, абралі

новых членаў, абмеркавалі сёньняшнюю палітычную сітуацыю ў Беларусі… Мы заклікаем да супрацьстаяньня палітыцы Аляксандра Лукашэнкі, накіраванай на ліквідацыю незалежнасьці Беларусі шляхам інкарпарацыі яе ў склад Расіі. Мы лічым неабходным бесперапынна інфармаваць краіны сьвету аб падзеях у Беларусі, у тым ліку і аб заціску свабоды, аб тым, ўто ўлады сістэматычна душаць іншадумства, дэмакратычную апазіцыю, прыватную эканамічную ініцыятыву, беларускую нацыянальную культуру і незалежныя сродкі масавай інфармацыі..

Сакратар Рады БНР па адукацыі **Ала Орса-Рамана** выступіла са спецыяльным дакладам аб арганізацыі ў дыяспары беларускіх школаў і курсаў мовы для дарослых. Трэба берагчы тое, што ёсьць. На пачатку 90-х гадоў мы думалі, што беларуская мова адраджаецца. А зараз ідзе зваротны працэс: зьнішчаецца наша мова і культура. Адначасова мы стараемся пашыраць у сьвеце інфармацыю пра Рэспубліку Беларусь як краіну будучых капіталаўкладаньняў, краіну са значным эканамічным патэнцыялам, выгодным геаграфічным становішчам і адукаванай рабочай сілай. Бо Беларусь знаходзіцца ў цэнтры Эўропы і можа быць карыснай для ўсіх краінаў Эўропы. Але Лукашэнка ўвесь час яе ізалюе, не дапускаючы да поўнай самастойнасьці і незалежнасьці…

На Сустрэчы беларусаў у Кліўлендзе выступалі многія вядомыя дзеячы дыяспары. Сярод іх – др. Янка Запруднік, сустаршыня Кааліцыі ў абарону дэмакратыі і правоў чалавека ў Беларусі, Надзея Дробіна, старшыня Аб'яднаньня беларусаў Канады, др. Язэп Сажыч, былы прэзыдэнт Рады БНР, Хведар Нюнька, кіраўнік Таварыства беларускай культуры ў Літве, Анатоль Белы, прафесар, кіраўнік мінскага клюбу "Спадчына", Сяргей Навумчык, журналіст радыё "Свабода", намеснік старшыні Рады БНР, Вячка Станкевіч, былы кіраўнік беларускай рэдакцыі радыё "Свабода", і іншыя. Усе выказалі сур'ёзную заклапочанасьць тым, што адбываецца сёньня ў Беларусі, гаварылі пра неабходнасьць пашырэньня інфармацыйнай дзейнасьці: сьвет павінен ведаць усю праўду і разумець тую пагрозу бяспецы ў Эўропе, якая ідзе ад расейскай акупацыі Беларусі і ад страты яе незалежнасьці. У разглядзе самых апошніх падзей у Расіі і выказваньняў Пуціна і Лукашэнкі прагучала папярэджаньне: у сьвеце пачынаецца, па сутнасьці, новая халодная вайна, таму што непамерна ўзмацніліся амбіцыі аднаго з праціўнікаў, які адраджае таталітарны сацыялізм і яго палітыку.

У прамовах звярталася ўвага і на ўнутрыамэрыканскія праблемы. Гаварылася пра тое, што стала складаней атрымоўваць гасьцявыя візы ў амэрыканскай амбасадзе ў Мінску, часьцей сталі адмаўляць тым, хто іх просіць, маўляў, таму, што многія могуць застацца ў ЗША і не вярнуцца. Прыводзіліся таксама выпадкі, калі чыноўнік з амэрыканскай іміграцыйнай службы, расіец па паходжаньні, адмаўляў тым, хто, прыехаўшы з Беларусі, падаваў дакументы на азыль, адмаўляў толькі таму, што гэты чалавек – беларус.

Сенатар **Джордж Вайновіч,** які актыўна падтрымаў прынятую нядаўна Кангрэсам ЗША рэзалюцыю "Аб становішчы ў Беларусі", зьвярнуўся да ўсіх удзельнікаў сустрэчы з просьбай напісаць лісты і петыцыі сваім сенатарам і кангрэсменам, падрабязна расказаць ім пра тое, аб чым гаварылася на гэтай Сустрэчы, паказаць усю сур'ёзнасьць сёньняшняй сітуацыі і ў Беларусі, і ў Расіі. "Амэрыка не павінна бяздумна даваць грошы Расіі" – заявіў сенатар Джордж Вайновіч.

Старшыня Кансерватыўна-Хрысьціянскай партыі БНФ "Адраджэньне" **Зянон Пазьняк** падкрэсьліў, што адна з галоўных задач дыяспары сёньня – гэта ўзьдзеяньне на амэрыканскіх палітыкаў, якія павінны падтрымаць барацьбу ўсіх патрыятычных сілаў у Беларусі за незалежнасьць. "Адбылася ўнутраная акупацыя нашай краіны, сёньня асноўны канфлікт у нас – гэта канфлікт паміж расейскім шавінізмам і беларускім рухам за незалежнасьць, -- сказаў З.Пазьняк. – Не было вайны, не бамбілі і не гучалі выбухі, але мы апынуліся пад чужой уладай, пад чужым урадам". Ён прывёў шматлікія факты паліцэйскай уседазволенасьці ў рэспубліцы і на канкрэтных прыкладах пацьвердзіў, што ўсе кіруючыя пасты у Беларусі паступова занялі рускія па нацыянальнасьці людзі, якія раней служылі ў спецслужбах. Зянон Пазьняк нагадаў, што у канцы 1994 года ў Будапешце было падпісана пагадненьне, адпаведна з якім у сувязі з поўнай адмовай Рэспублікі Беларусь ад ядзернай зброі тры вялікія дзяржавы – ЗША, Англія і Расія абавязаліся выступаць гарантам яе незалежнасьці. "Ці не настаў цяпер час успомніць аб гэтым і патрабаваць выкананьня Будапешцкага пагадненьня?" – слушна спытаў З. Пазьняк. Прагучала і думка аб тым, што расейскія спецслужбы у сваіх мэтах могуць замяніць Лукашэнку чалавекам са сваёй жа каманды. Тым не меней, гаворачы пра будучыню нацыянальнага адраджэньня ў Беларусі, Зянон Пазьняк выказаў пэўны аптымізм, звязаны з ростам супраціўленьня рэжыму ў рэспубліцы, са шматлікімі акцыямі пратэсту, са зьменамі ў сьвядомасьці многіх. "Наша нацыянальная ідэя – ідэя перспектыўная, - падкрэсьліў З.Пазьняк. – Дыктатура Лукашэнкі мае толькі сілу, яе адзіная падтрымка – Расія. А мы ўдзельнічаем у заканамерным працэсе нарастаньня барацьбы, барацьбы за свабоду і незалежнасьць."

Сустрэча беларусаў Паўночнае Амэрыкі адбывалася ў цудоўным грамадска-культурным цэнтры "Полацак", пабудаваным кліўлендскай беларускай іміграцыяй у прыгожым прыгарадзе Стронгсвілл. Тэрыторыю і парк вакол цэнтру "Полацак" нядаўна ўпрыгожыў новы будынак царквы сьвятой Маці Боскай Жыровіцкай. Распісваць храм прыехаў спецыяльна з Мінску вядомы беларускі мастак Аляксей Марачкін. Тры дні на пачатку верасьня тут не спыняліся размовы і спрэчкі. Але ня толькі: гучалі беларускія песьні і народныя мелёдыі ў цудоўным выкананьні кліўлендскага хору "Васілёк" і вакальна-інструментальнага ансамблю Валянціны, Алеся і Вольгі Казак.

Хочацца ад усяе душы выказаць падзяку тым, хто непасрэдна рыхтаваў гэту вельмі важную і цікавую сустрэчу. Гэта Полу Васілеўскаму і Анатолю Лук'янчыку, кіраўнікам Кліўлендкага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, спадарам Астапу Яраховічу, Віктару Лукашэвічу, Вользе Дубаневіч-МакДэрмот, Кастусю Калошы, Алесю Кабяку, Вальтэру Літвінка, Віктару Патапенку, Алене Кананчук, Еве Яраховіч, Таццяне Дубаневіч і многім іншым сапраўдным энтузіястам нашай грамадзкай справы.

… У сваім прывітаньні тым, хто сабраўся ў Кліўлендзе, выдатны беларускі пісьменьнік **Васіль Быкаў** напісаў: "Можа так стацца, што вельмі хутка, апроч вас, нікога ў сьвеце не застанецца, хто мог бы вымавіць беларускае слова. Ня дай Бог нікому апынуцца апошнім… Шчасьця вам!"

У тыя дні людзі жылі надзеяй. Надзеяй на тое, што іх народ будзе жыць, захаваецца ў новым стагодзьдзі, як будзе жыць і захаваецца іх цудоўная мова, іх нацыянальная культура.

Рэпартаж з Кліўленда вёў **Ванкарэм Нікіфаровіч.**



# "Каб тут была беларушчына…"

## Гутарка з мастаком Аляксеем Марачкіным

Сярод удзельнікаў Сустрэчы беларусаў Паўночнае Амэрыкі ў Кліўлендзе быў вядомы беларускі мастак Аляксей Марачкін. І першым пытаньнем да яго, калі мы сустрэліся, было наступнае: раскажыце, калі ласка, якая мэта вашага прыезду сюды?



**Мастак Аляксей Марачкін каля царквы ў "Полацаку".**

- Распачынаецца вялікая і адказная праца, пра яе я думаю ўжо паўтары гады, рыхтуюся да яе. Тут, на "Полацаку", збудавана прыгожая царква Маці Боскай Жыровіцкай. Мне пашчасьціла ўдзельнічаць у конкурсе на размалёўку і афармленьне гэтага храма. Разам з сынам Ігарам – ён таксама мастак, дызайнер, -- мы зрабілі праект, ён ухвалены і зацьверджаны. А цяпер нам выпала прыехаць сюды ў Кліўленд, і мы практычна заняліся гэтай справай. Для мяне як для мастака яна вельмі важная і адказная, бо я адчуваю, што ўжо духоўна падышоў да той мяжы, калі магу зьвярнуцца да абразоў, да ўвасабленьня вобразаў Ефрасіньні Полацкай, Кірылы Тураўскага, нашых беларускіх сьвятых. За чатыры месяцы мы павінны зрабіць роспіс за іканастасам. А потым будзем працаваць у вялікай зале.




**Аляксей Марачкін. "Маці Божая ахвяраў Чарнобылю". 1990 г.**

- Хто яшчэ ў вашым аўтарскім калектыве?

- Нам актыўна дапамагае кліўлендскі мастак Сяргей Харытонаў. Вельмі важна, што да гэтай справы прычыніўся беларускі мастак Алесь Пушкін. Мы з ім разам рабілі макет афармленьня і

эскізы роспісаў. Але так атрымалася, што ён зараз ня змог прыехаць, але абавязкова прыедзе сюды пазьней. Пасьля яго перформанса, калі ён сваёй акцыяй выявіў свае адносіны да прэзідэнта Лукашэнкі, ён быў арыштаваны. Тады яго неўзабаве выпусьцілі. Але пасьля Маршу Свабоды, што быў гэтай вясной, Лукашэнка, мяркуючы па ўсім, нагадаў адпаведным структурам, каб яго судзілі. Яму далі два гады ўмоўна, фактычна за мінулае нібыта "парушэньне". Алесь Пушкін спадзяецца, што ў хуткім часе яго амніcціруюць як воінаафганца. Ён быў супраць той вайны, гаварыў, што тая вайна – злачынная, і калі яго дэмабілізавалі і далі медаль, дык ён гэты медаль ня ўзяў. Мне вельмі цікава з ім працаваць, мы добра разумеем усю адказнасьць таго, што робім.

- І як вам тут, у Кліўлендзе пачуваецца?

- Быць тут вельмі прыемна, я не адчуваю самоты па радзіме, усе тут – свае людзі. Баюся нават, што не навучуся ангельскай мовы, бо паўсюль гучыць мова беларуская. Праца наперадзе вельмі вялікая, разлічана яна не на адзін год, каб усё зрабіць, патрэбна гадоў пяць…

- Раскажыце, калі ласка, у чым спецыфічныя мастакоўскія асаблівасьці менавіта гэтай працы?

- Гэта вельмі важнае пытаньне. Здаецца, яшчэ Гандзі сказаў, што калі ты жывеш радзімай, яе ідэаламі, хоць і на адлегласьці, ня трэба думаць пра нацыянальную адметнасьць, рука сама будзе рабіць тое што трэба, і гэта будзе адпавядаць духоўнасьці твайго народу. Гэта не значыць, што рука можа быць разумней галавы або пачуцьця. У свой час я зрабіў каля дваццаці партрэтаў вядомых дзеячоў беларускай гісторыі: Рагнеда, Кірыла Тураўскі, Ефрасіньня Полацкая, Кастусь Каліноўскі, Язэп Драздовіч і іншыя. Так што ў мяне ўжо ёсьць нейкі вопыт, набытак. Але гэта ўсё былі сьвецкія партрэты. Іканапісныя партрэты -- справа значна складанейшая. Але ў нас на Беларусі ёсьць свая цудоўная іканапісная школа. Асаблівa яна выявілася ва ўніяцкай іконе. Калі б у мяне запыталі, чым адрозьніваецца абраз беларускі ад расейскага, я б адказаў так: расейскія іконы могуць быць тонка і па-майстэрску выкананы, але яны над чалавекам. Прыгадаем нават Феафана Грэка, Андрэя Рублёва… А беларускія абразы – яны з чалавекам, яны кантактуюць, яны да сэрца ідуць, і там няма зьнешніх эфектаў, яны вабяць свімі фарбамі, нейкім унутраным пачуцьцём. На першы погляд яны занадта простыя, але яны на самой справе вельмі адухоўленыя. І ў нашых абразах вельмі часта ўжываецца блакітны колер, чаго няма ў расейскіх іконах. Тыя ўсе карычнева-залацістыя. На наш беларускі іканапіс моцна ўплывала народнае мастацтва. Мы з вамі надоечы як раз гаварылі пра Марка Шагала, пра яго блакітны колер і пра ўплыў на яго творчасьць і яўрэйскага, і беларускага народнага мастацтва, у тым ліку і ўніяцкага іканапісу. Дарэчы, аб гэтым піша і вядомы мастацтвазнавец Алпатаў.

- І што мы ўбачым па завяршэньні?

- У нас у храме ў цэнтры – уладар уладароў, гэта вобраз Ісуса Хрыста. У нашым беларускім царкоўным гімне сказана: "Магутны Божа, уладар сусьветаў… " У адзеньні Хрыста я ўжываю элементы слуцкага паса. Паўсюль будуць толькі беларускія тэксты. Бо гэта царква - кавалачак нашай зямлі і нашага ідэалу. У іканастасе закладзены тэматычныя сцэны са Сьвятога Пісаньня. Іканастас плануецца большы, і там, у другім і трэцім радзе будуць страсьці Хрыстовы: нараджэньне Хрыста, пакуты яго, укрыжаваньне і ўваскрашэньне. А ў роспісах асноўная тэматыка – нашы беларускія сьвятыя і, нашы пакуты – Чарнобыль і Курапаты. Ня простае і мастакоўскае вырашэньне вокнаў менавіта ў гэтай царкве. Вітражы ў праваслаўных храмах бываюць рэдка, яны ня вельмі распаўсюджаны, асабліва ў Беларусі і Расіі. Але калі мы зазірнулі ў гісторыю, у архівы, паднялі старыя кнігі, дык убачылі, што ў візантыйскіх храмах былі вітражы. Праўда, у адрозьненьне ад каталіцкіх храмаў, яны вельмі сьціплыя, і перавагу там аддаюць дзённаму сьвятлу. Боскае сьвятло, ня зьмененае нічым, пранікае ў царкву. У гэтым плане і мы робім вітражы, яны будуць вельмі сьветлыя, без асаблівай дэкаратыўнай насычанасьці. А тэматыка іх вельмі цікавая – гэта нашы гарады Беларусі і іх храмы. Напрыклад, Полацкая Сафія, тут жа будзе герб Полацака, Менск, герб Менска і гэтак далей. Многія беларускія гербы – хрысьціянскія па сутнасьці, тая ж "Пагоня" – гэта сьвяты Георгій на кані. А ёсьць сьвецкая, купецкая геральдыка…

- Дзякуй вам, Аляксей. Зычым добрага здароўя і плённых посьпехаў. Дай Бог вам сілаў пасьпяхова завяршыць гэту важную працу.

Размову з Аляксеем Марачкіным вёў

**Ванкарэм Нікіфаровіч.**



# Бацькаўшчына - не манапаліст, але супраць расколу

**Юрась Бушлякоў – Радыё "Рацыя"**

Вучоныя налічваюць да 9 асноўных хваляў беларускай эміграцыі. Паводле розных ацэнак, сёньня па-за межамі гістарычнай Бацькаўшчыны жыве ад двух да трох з паловаю мільёнаў беларусаў. Адзначаючы свой дзесяцігадовы юбілей, Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына", як і на пачатку 1990-ых гадоў, па-ранейшаму называе сваёй асноўнаю задачай кансалідацыю ўсіх беларусаў сьвету вакол дзяржаватворчых мэтаў. Чальцы Ўправы Згуртаваньня канстатуюць пры гэтым, што ў сваёй дзейнасьці яны змушаныя пераадольваць ціск з боку цяперашніх дзяржаўных інстытуцыяў. Улады Беларусі тым часам спрабуюць пераняць ініцыятыву кантактаў з замежнымі суродзічамі, перш за ўсё, зь беларусамі з постсавецкай прасторы, - фактычна пры Дзяржаўным камітэце па справах нацыянальнасьцяў і рэлігіяў створаная асацыяцыя "Сьвятло Радзімы". Стварэньне асацыяцыі чальцы "Бацькаўшчыны" трактуюць як правакацыю з боку уладаў.

Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" абвяшчае, што не прэтэндуе на манаполію ў дачыненьнях з замежнымі суродзічамі. Пры гэтым кіраўнікі "Бацькаўшчыны" абураныя фактамі выкарыстаньня афіцыйным Менскам кантактаў з дыяспарай, перш за ўсё постсавецкай, для прапаганды сучаснага палітычнага курсу Беларусі. Вядома, напрыклад, што ўжо даволі доўгі час улады спрабуюць перахапіць у "Бацькаўшчыны" ініцыятыву правядзеньня чарговага зьезду беларусаў сьвету. Яшчэ на пачатку 2000-га Міністэрства замежных справаў рассылала па беларускіх суполках усяго сьвету паведамленьне пра плянаваны на сёлетні ліпень Усебеларускі зьезд -- зьезд, падкрэсьлю, не пад эгідаю "Бацькаўшчыны", але пад эгідаю дзяржавы. Невядома, зь якіх прычын, аднак пакуль гэтая ініцыятыва МЗС-у засталася без рэалізацыі. Але вось альтэрнатыўная згуртаваньню "Бацькаўшчына" структура зьявілася -- асацыяцыю "Сьвятло Радзімы" ачоліў цяперашні старшыня Дзяржаўнага камітэту па справах нацыянальнасьцяў і рэлігіяў Аляксандар Білык. На думку чальцоў Управы "Бацькаўшчыны", прапагандысцкая дзейнасьць наваствoранай асацыяцыі ў краінах былога СССР прыводзіць да расколаў у беларускіх суполках. На афіцыйным роўні заяўляецца пра дзяржаўную падтрымку беларускай дыяспары. Пры гэтым вядома, што ўлады ня маюць сёньня грошай на рэалізацыю ўхваленай у 1993-ім праграмы "Беларусы сьвету". У адным зь нядаўніх інтэрвію памочнік Аляксандра Лукашэнкі Сяргей Посахаў змушаны быў канстатаваць правал праграмы з прычыны адсутнасьці сродкаў.

Тым часам кіраўнікі "Бацькаўшчыны" дэкляруюць адказнасьць за беларускую дзяржаўнасьць. На праведзенай у чацьвер прэсавай канфэрэнцыі з нагоды 10-годзьдзя "Бацькаўшчыны" чальцы Ўправы падкрэсьлівалі нязьменнасьць задачы кансалідаваць беларусаў вакол дзяржаватворчых мэтаў. Сёньня згуртаваньне, прэзыдэнтам якога застаецца акадэмік Радзім Гарэцкі, аб'ядноўвае больш за 80 беларускіх цэнтраў і суполак ува ўсім сьвеце. На думку чальца Ўправы "Бацькаўшчыны" Івана Саверчанкі, згуртаваньне застаецца адным з найважнейшых аналітычных і арганізацыйных беларускіх цэнтраў, несучы цяжар стратэгічнай адказнасьці за нацыю. Кіраўнікі "Бацькаўшчыны" запэўнілі журналістаў, што ніякага ўнутранага крызысу ва Ўправе арганізацыі няма. Падтрымліваюць у менскай сядзібе згуртаваньня й кантакты з Ганнай Сурмач, старшынёю Рады "Бацькаўшчыны", якая летась выехала зь Беларусі ў Чэскую Рэспубліку, дзе папрасіла палітычнага прытулку. Згодна із статутам "Бацькаўшчыны", у ліпені 2001-га мае адбыцца III зьезд беларусаў сьвету, на ім, праўдападобна, і паўстане пытаньне пераабраньня старшыні Рады – пакуль жа на гэтай пасадзе застаецца спадарыня Сурмач.

Можна ўжо цяпер зь вялікай доляю ўпэўненасьці дапусьціць, што пры арганізацыі наступнага зьезду беларусаў сьвету "Бацькаўшчыне" як арганізацыі, якая не падзяляе палітычнага курсу афіцыйнага Менску, давядзецца канкураваць зь дзяржаўнымі ініцыятывамі аналягічнага характару. Зрэшты, перш як арганізоўваць зьезд, "Бацькаўшчына" правядзе чацьвертую лікам канфэрэнцыю "Культура й адукацыя беларускага замежжа" - яна заплянаваная на сёлетні сьнежань. І яшчэ адзін праэкт згуртаваньня варта адзначыць - завершаная падрыхтоўка інфармацыйнай базы "Энцыкляпэдыі беларускай эміграцыі" -- унікальнага выданьня, у якім будуць сабраныя зьвесткі пра беларускую прысутнасьць у розных кутках плянэты. Праўда, пакуль невядома, калі кніга зможа пабачыць сьвет -- належных сродкаў згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" сёньня ня мае.

# НЯМА ПРАРОКА Ў СВАЁЙ АЙЧЫНЕ

## ПАСЬЛЯ АД'ЕЗДУ З БЕЛАРУСІ ВАСІЛЯ БЫКАВА І УЛАДЗІМІРА НЯКЛЯЕВА РОДНЫ КРАЙ ЗЬБІРАЕЦЦА ПАКІНУЦЬ І ПІСЬМЕНЬНІЦА СЬВЯТЛАНА АЛЕКСІЕВІЧ

13 верасьня ў Доме дружбы адбылася канферэнцыя "Разбуранае ХХ стагоддзе: хроніка Будучыні", якую ладзіў Міжнародны жаночы фонд Сьвятой Еўфрасіньні Полацкай і грамадзкае аб'яднаньне "Літаратурнамастацкі фонд "Гронка". У рамках гэтай канферэнцыі адбылася прэзентацыя кнігі Сьвятланы Алексіевіч "Чарнобыльская малітва".

Гэта ўжо сямнаццатае выданьне добра вядомай кнігі пісьменьніцы. І толькі цяпер кніга пабачыла сьвет пабеларуску. Фінансавую падтрымку праекту аказала Пастаяннае прадстаўніцтва ААН у Беларусі, праграма "Matra" пасольства Нідэрландаў у Польшчы і нямецкая грамадзкая ініцыятыва "Жыцьцё пасьля Чарнобылю"(г. Брэмен, Нямеччына).

Трэба адзначыць, што пасьля прыходу да ўлады Лукашэнкі ў Беларусі не выдадзена ніводнай кнігі Сьвятланы Алексіевіч. І гэтае выданьне, як бачым, таксама ажыцьцёўлена без удзелу дзяржавы.

У канцы верасьня вядомая пісьменьніца, аўтар кніг "У вайны не жаночае аблічча", "Апошнія сьведкі", "Цынкавыя хлопчыкі", "Зачараваныя сьмерцю" і "Чарнобыльская малітва," на два гады пакіне Беларусь. Па запрашэньні і на стыпендыю пісьменьніцкай арганізацыі, існуючай у структуры Еўрапарламенту, Сьвятлана Алексіевіч будзе жыць і працаваць у Фларэнцыі (Італія). Там яна плануе закончыць працу над кнігай "Дзіўны алень вечных ловаў", у якой будзе ўслаўленае каханьне. Яна плануе на працягу гэтых гадоў перыядычна прыязджаць на Радзіму.

На прэзентацыі сваёй кнігі пісьменьніца сказала: "Страх – гэта і ёсьць параза перад уладамі".

**Леанарда МУХІНА.**



*Леанід Лыч, доктар гістарычных навук, прафесар.*

# І да Расіі ёсць прэтэнзіі

Наша слова

Год таму мне патэлефанавалі з рэдакцыі адной з афіцыйных рэспубліканскіх газет і папрасілі на 7-8-мі старонках асвятліць узаемадачыненні Расіі і Беларусі, не ўтойваючы і негатыўных бакоў. На мае сумненні, што вы пабаіцеся змясціць такі матэрыял, быў дадзены прыкладна падобнага зместу адказ: "Часы мяняюцца, народ трэба каб ведаў усю праўду". Не выканаць такога заказу я не мог, хаця і сумняваўся, што справу даведу да канца, бо апошнім часам з вельмі вялікай цяжкасцю прабіваюцца мае матэрылы на старонкі афіцыйнага друку. За рукапіс у рэдакцыі падзякавалі і далі мне зразумець, што заказ на яго прыйшоў зверху. Калі мінула пару месяцаў, а матэрыял не надрукавалі, ініцыятыву ўжо давялося мне ўзяць у рукі. Тон у рэдакцыі змяніўся з мажорнага на мінорны. Зараз ужо аніякай надзеі не падаюць на яго надрукаванне. Таму вырашыў звярнуцца па гэтым пытанні ў рэдакцыю "Нашага слова", каб пазнаёміць яе чытачоў з матэрыяламі, якіх баіцца афіцыйны перыядычны друк.

Сусветная практыка не ведае такога, каб паміж суседнімі краінамі не было сур'ёзных канфліктаў, у тым ліку і кравапралітных войнаў. Нельга з гэтай агульнай заканамернасці выключыць Беларусь і Расію. Карані іх непрыязных адносін сягаюць ужо ў часы Кіеўскай Русі (Старажытнарускай дзяржавы). Нікольні не палепшылася сітуацыя пасля ўтварэння самастойных беларускай і рускай дзяржаў – Вялікага Княства Літоўскага і Маскоўскага княства (пазней – Руская цэнтралізаваная дзяржава). І галоўная прычына частых войнаў паміж імі – гэта прэтэнзіі і адной, і другой на валоданне землямі ўсходніх славян праваслаўнай веры. Калі шалі вагаў у гэтай барацьбе пачалі беспаваротна схіляцца на карысць Рускай Дзяржавы, палітыкам Вялікага Княства Літоўскага нічога не заставалася рабіць дзеля свайго выратавання ад агрэсіі ўсходняга суседа, як пайсці ў 1569 г. на саюз з Каронай Польскай, бо апошні гарантаваў яму (Княству) значныя палітычныя правы, у той час як Масква ішла на поўнае знішчэнне яго Дзяржаўнага суверэнітэту. Як бачым, добрасуседствам тут ніколі не пахла. Утвoранай у выніку такога саюзу федаратыўнай дзяржаве – Рэчы Паспалітай – даводзілася гэтак жа часта ваяваць з Масковіяй, як калісьці Вялікаму Княству Літоўскаму. Віна за войны ў аднолькавай ступені ляжыць на ўрадах гэтых дзвюх славянскіх краін. У сутычках з рускімі беларусы пралілі больш крыві, чым пры адбіцці нападаў на іх з боку Ордэна мечаносцаў, Тэўтонскага і Лівонскага ордэнаў, паволжскіх і крымскіх татараў.

У войнах Масквы з ВКЛ і Рэччу Паспалітай вельмі небяспечную, агрэсіўную палітыку праводзіла Руская праваслаўная царква (РПЦ). Яна не толькі апраўдвала, а нават натхняла маскоўскіх палітыкаў на арганізацыю ваенных паходаў на захад з мэтай далучэння да сваёй мітраполіі праваслаўных вернікаў ВКЛ. Ад такога, далёка не адпаведнага духу хрысціянства курсу, Руская праваслаўная царква не адступіла і пасля таго, як яны ўжо знаходзіліся ў складзе Рэчы Паспалітай. У асабліва жорсткай форме РПЦ пачала выстаўляць свае правы на праваслаўных гэтай дзяржавы пасля заснавання ў 1589 годзе насуперак волі Канстанцінопальскага патрыярха Маскоўскай патрыярхіі. Каб надзейна адгарадзіцца ад яе прэтэнзій і не быць цалкам праглынутымі каталіцызмам польскага ўзору, у праваслаўных Рэчы Паспалітай было адно выйсце: стварыць незалежную ад Маскоўскай патрыярхіі і польскага касцёла царкву. Пачатак ёй быў пакладзены падпісаннем у 1596 годзе Берасцейскай царкоўнай уніі. Мяркуючы па тым, з якім размахам польскія ўлады, касцёл, адпаведная сістэма адукацыі займаліся паланізацыяй праваслаўных беларусаў, яны доўга не пратрымаліся б, не дачакаліся б трох падзелаў Рэчы Паспалітай (1772, 1793, 1795), каб не мелі сваёй уласнай царквы – уніяцкай (грэка-каталіцкай).

Падзелы Рэчы Паспалітай і далучэнне ў выніку гэтага амаль усёй тэрыторыі Беларусі да Расіі не былі якой-небудзь выратавальнай акцыяй для нашага народа. Адны глядзелі на яго, як на спрадвечна рускіх, таму стаялі за палітыку русіфікацыі, другія – не адрозънівалі ад палякаў, таму не перашкаджалі працягу яго далейшай паланізацыі. Ні свецкія і духоўныя ўлады, ні інтэлігенцыя Расіі нават кроку не зрабілі, каб дапамагчы беларусам стаць на шлях самабытнага этна-культурнага развіцця. Надзеі на яго асабліва пахіснуліся пасля адміністрацыйнага, гвалтоўнага скасавання ў 1839 г. Берасцейскай царкоўнай уніі. Яе былых вернікаў пачалі навыперадкі перацягваць у свой лагер Руская праваслаўная царква і польскі каталіцкі касцёл. Першая дапамагала ўладам пераплаўляць іх у рускіх, другі – у палякаў. У царскай Расіі канца XIX – пачатку XX ст. не было такога здэнацыяналізаванага народа, як беларускі. І трагічна, проста абсурдна, што такім ён стаў дзякуючы "стараннямі" двух славянскіх народаў. Але ўсё ж найбольшая віна кладзецца на ўрад царскай Расіі, Рускую праваслаўную царкву, шавіністычна настроеную частку інтэлігенцыі гэтай краіны.

Не быў спагадлівым да беларусаў усталяваны бальшавікамі палітычны рэжым савецкай Расіі з усіх яе ўсходніх народаў беларускаму ў апошнюю чаргу далі дазвол на стварэнне ўласнай дзяржавы ў асобе Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, якая за ўвесь час свайго існавання так і не стала па-спраўднаму суверэннай. Асабліва здзіўляе, з якой лёгкасцю спачатку савецкая Расія, а затым СССР распараджаліся этнічнай беларускай тэрыторыяй. Ёю гандлявалі, як хацелі, на перамовах з кайзераўскай Германіяй і Польшчай. РСФСР вярнула Беларусі Віцебшчыну, Магілёўшчыну і Гомельшчыну толькі пасля настойлівых зваротаў яе савецкіх і партыйных органаў у саюзны ўрад і ЦК УКП(б), масавых просьбаў самога насельніцтва гэтых тэрыторый. Інакш, як злачынствам, нельга назваць перадачу Масквою ў кастрычніку 1939 г. Літве спрадвечна беларускага Віленскага краю разам з Вільняй і ў верасні 1944 г. перадачу Польшчы такой жа спрадвечна беларускай Беласточчыны, значэнне якіх для гісторыі і культуры нашай Бацькаўшчыны надзвычай вялікае. Партыйны цэнтр у Маскоўскім Крамлі валодаў неабмежаванай уладай распараджацца лёсам беларускага народа, у выніку чаго за час масавых рэпрэсій 30-х гадоў былі ледзь не цалкам вынішчаныя яго самыя элітарныя пласты. Такога не дазволіла б уласная дзяржава. Гвалтоўная калектывізацыя сельскай гаспадаркі, барацьба з "ворагамі народа" – гэта таксама не беларуская з'ява. Яна прыйшла да нас з усходу. У адносінах да агульнай колькасці людзей ніводзін народ, што даў імя саюзнай рэспубліцы, не панёс такіх вялікіх чалавечых ахвяр, як беларускі. Ёсць сур'ёзныя сумненні ў правамернасці Масквы заклікаць у гады нямецкай акупацыі дрэнна ўзброеных беларусаў да ўсенароднай барацьбы з фашыстамі, у выніку чаго рэспубліка страціла ледзь не кожнага трэцяга свайго жыхара. Аднак, нягледзячы на такія вялізарныя страты, доўгі час пасля вайны беларускі народ не карыстаўся належным даверам у агульнасаюзных органаў. З іх ласкі ў нас усе самыя ключавыя пазіцыі ў дзяржаўным і партыйным апаратах, міністэрствах і ведамствах занялі адкамандзіраваныя Масквою асобы, абсалютная большасць якіх была не беларускай нацыянальнасці, не ведала і не стала вучыць родную мову карэннага насельніцтва БССР. Чужое для яе нацыянальных інтарэсаў кіраўніцтва рабіла ўсё, каб падагнаць беларускі народ пад культуру і мову тых, хто гаспадарыў на яго зямлі. Ад першых пасляваенных гадоў і па сённяшні ў нас не існавала і няма аніводнай нацыянальнай вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай навучальнай установы. Паколькі іх праца вялася і вядзецца на рускай мове, на яе ў масавым парадку пачалі з канца 50-х гадоў без усялякіх пратэстаў з боку прагматычна настроеных бацькоў пераводзіць беларускамоўныя агульнаадукацыйныя школы ў рускамоўныя, бо які сэнс вучыць дзяцей на мове, якую дзяржава гэтак заўзята выводзіла з грамадскага жыцця. У век цывілізацыі, пагалоўнай пісьменнасці людзей адсутнасць нацыянальнай сістэмы адукацыі ў таго ці іншага народа непазбежна вядзе да яго этнічнага вымірання, небяспеку такога разумелі многія з нацыянальна-самасвядомых прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі, але іх звароты ў рэспубліканскія партыйныя і савецкія органы Беларусі спыніць русіфікацыю маладых пакаленняў праз установы адукацыі засталіся без адказу. Гэтыя адкрыта прарускай арыянтацыі органы з аднаго боку былі абыякавымі да нацыянальных інтарэсаў беларускага народа, з другога – страшэнна баяліся, каб Масква не абвінаваціла іх у прыняцці захадаў па затармажэнні працэсаў збліжэння, зліцця савецкіх нацый, іх культур і моваў як найважнейшага патрабавання пабудовы светлага камуністычнага грамадства. У пераважнай сваёй большасці рускага паходжання палітыкі і інтэлігенцыя Расіі замест таго каб забіць у набат у сувязі з глабальным разбурэннем этнакультурных асноў братняга ім беларускага народа, усяляк хвалілі гэты працэс, заклікалі іншыя савецкія народы пераймаць "прагрэсіўны" беларускі досвед. Сярод жа іх такіх прастачкоў не знайшлося. На час гарбачоўскай перабудовы ў СССР не было аніводнай саюзнай рэспублікі, карэннае насельніцтва якой вызначалася б такой высокай ступенню дэградацыі нацыянальнага патанцыялу, як беларусы. І самае страшнае, што найбольш адарванымі ад нацыянальных каранёў, роднай культуры, роднай мовы аказаліся палітыкі, інтэлігенцыя, г.зн. акурат тыя пласты народа, якія пры спрыяльных варунках з'яўляюцца асноўнай сілай, маторам яго нацыянальна-культурнага адраджэння. Улічваючы такую адарванасць гэтых элітарных пластоў беларускага народа ад яго нацыянальнага жыцця, Масква вельмі тонка выкарыстоўвала і выкарыстоўвае іх у сваіх інтарэсах у час, калі ішло заснаванне беларускай суверэннай дзяржавы, калі адбываецца пераход да рынкавай эканомікі. У сродках масавай інфармацыі Расіі шырока распаўсюджваліся плёткі аб штучнасці самога факта стварэння беларускай незалежнай дзяржавы, аб адсутнасці ў яе ўсялякіх ўмоў для самастойнага існавання, з чым цалкам пагаджаліся многія нашыя палітыкі і значная

частка інтэлігенцыі. Таму ўжо на першым годзе існавання суверэннай Рэспублікі Беларусь у іх асяроддзі сфармалася ў асноўных рысах ідэя аб палітычным аб'яднанні з Расіяй. Каб гэтая ідэя ў любы зручны час магла стаць рэальнасцю, Масква супольна з высокімі, уплывовымі палітыкамі Рэспублікі Беларусь прарускай арыентацыі пастараліся – і даволі паспяхова – аддаць усе ключавыя пазіцыі ў яе дзяржаўных органах улады і кіравання асобам небеларускай нацыянальнасці ці вялікім прыхільнікам адзінай руска-беларускай дзяржавы з ліку саміх беларусаў

Сёння дзяржаўны апарат Рэспублікі Беларусь, пачынаючы ад яго самых высокіх і канчаючы самымі нізкімі звёнамі, практычна гатовы да здзейснення гэтай "гістарычнай"акцыі, зусім не задумваючыся, што яна можа даць беларускаму народу. Далёкія ад беларускай нацыянальнай ідэі палітыкі і інтэлігенцыя зусім не бяруць пад увагу, што сумеснае жыццё народаў у поліэтнічнай дзяржаве непазбежна вядзе да іх асіміляцыі. У такіх дзяржавах этнічна выжывае, духоўна квітнее толькі народ, які надзелены найбольшай паўнатой палітычнай улады, адыгрывае вырашальную ролю ў эканоміцы, культура і мова якога з'яўляюцца самымі распаўсюджанымі ў краіне. Разлічваць, што ў адзінай руска-беларускай дзяржаве такое месца зойме беларускі фактар могуць толькі зусім непісьменныя людзі. Нашым палітыкам-інтэгратарам трэба ведаць, што ў поліэтнічных дзяржавах найбольш паскоранымі тэмпамі ідзе працэс асіміляцыі народаў, якія блізкія па культуры і мове асноўнай нацыі краіны. Бліжэй, як беларусы ў рускіх не будзе народа, таму першымі ў гэтай поліэтнічнай руска-беларускай дзяржаве давядзецца зведаць канчатковую асіміляцыю не чувашам, удмуртам, башкірам, татарам… а браткам-беларусам. Да гэтага іх нават сёння вельмі старанна рыхтуе свая ўласная дзяржава. Праведзеныя па яе ініцыятыве ў маі 1995 года рэферэндум пад корань знішчыў першыя флянсы нацыянальнай сістэмы адукацыі, да мінімуму звузіў сферу ўжывання беларускай мовы ў службовым спрваводстве, адсунуў яе на задні план ва ўсіх сродках масавай інфармацыі. Усё часцей палітычнымі дзеячамі і асіміляванай часткай інтэлігенцыі публічна заяўляецца аб неіснаванні ў самой прыродзе беларускага народа з яго адметнымі гісторыяй, культурай, бытам і мовай. Актыўна да такой шкоднай прапагандыскай дзейнасці падключылася Праваслаўная царква Беларусі. Замест таго, каб папрасіць у яе народа даравання за ўсё зробленае ў папярэднія часы па яго русіфікацыі, праваслаўнае духавенства ўсяляк падкрэслівае адсутнасць у беларусаў хоць якіх-небудзь адрозненняў ад рускіх у гісторыі, культуры, мове, называе іх адзіным народам, заклікае да хутчэйшага палітычнага аб'яднання ў адзіную з рускімі дзяржаву. Думкі аб неіснаванні самабытнага беларускага народа, сапраўднай беларускай нацыянальнай культуры і мовы шырока і бесперашкодна тыражуюцца ў Расіі. І як не дзіўна, такія думкі часта выходзяць з вуснаў самых вядомых расійскіх палітыкаў, вучоных, дзеячаў культуры. Яны бясконца рады, што майскім рэферэндумам юрыдычна ўраўнялі рускую мову з беларускай, хаця, напэўна ж, ведаюць, што ў працэсе суперніцтва першая, як найбольш развітая, з багацейшай практыкай функцыянальнага абслугоўвання грамадскага жыцця Беларусі выцесніць адсюль сваю канкурэнтку. Прыкладаў у падцвярджэнне сказаннаму ўжо на сёння ў нас больш, чым трэба.

З кожным годам расце ў Расіі лік праціўнікаў дзяржаўнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусь. Яны проста не ўяўляюць сваёй краіны без прысутнасці ў ёй Беларусі. У якасці доказу прывяду колькі радкоў з кнігі Аляксандра Дугіна "Основы геополитики. Геополитическое будущее России" (Москва, 1997 г.), навуковым кансультантам якой зьяўляецца загадчык Кафедры стратэгіі Ваенная акадэміі Генеральнага штаба Расійскай Федэрацыі генерал-лейтэнант Н. П. Клокатаў: "В отношении Белоруссии геополитическая картина довольно ясная. За исключением небольшой части полонизированных белорусов (католиков, униатов, а также поляков), подавляющее большинство населения однозначно принадлежит русскому пространству (…) Белоруссию следует рассматривать как часть России" (стар.376, 377).

У высокіх палітычных колах Беларусі не палічылі патрэбным даць ацэнку такім выказванням, бо і многія з тых хто пры ўладзе, не належаць да шчырых прыхільнікаў нацыянальнага суверынітэту, не хочуць прызнаць выключную ролю ўласнай самастойнай дзяржавы для лёсу беларускага народа. Такімі палітыкамі дзяржаўны суверынітэт Беларусі разглядаецца як сур'ёзная перашкода на шляху эканамічнай і палітычнай інтэграцыі з Расіяй, развіцця культурнага супрацоўніцтва з ёю. Праз адпаведныя выступленні нашых палітыкаў і падначаленых ім ідэалагічных службаў па радыё і тэлебачанні, праз выказванні на старонках газет і часопісаў на народ абрушваецца велізарныя патокі шкоднай інфармацыі, якія дазвання нішчаць і без таго вельмі кволую яго нацыянальна-дзяржаўную свядомасць. Народ загадзя рыхтуюць да таго, каб ён не бачыў аніякай трагедыі ў страце дзяржаўнай незалежнасці, што немінуча адбудзецца пры палітычнай інтэграцыі з Расіяй. Чалавецтва яшчэ не прыдумала ніводнай лепшай формы палітычнай арганізацыі жыцця таго ці іншага народа, як нацыянальная дзяржава, асабліва калі яе практычная дзейнасць цалкам адпавядае гэтай назве. Такой дзяржаве не ўяўляецца асаблівай цяжкасцю спыніць на любым, нават самым пагражальным этапе працэс асіміляцыі тытульнага народа, стварыць сапраўдную нацыянальную сістэму адукацыі, надаць яго роднай мове статус адзінай дзяржаўнай у краіне, забяспечыць у поўным аб'ёме прыярытэт для росквіту прафесійнай нацыянальнай культуры. Усе гэтыя крайне неабходныя і актуальныя напрамкі ў практычнай дзейнасці нашай дзяржавы адсутнічаюць, што не дае падставаў называць яе нацыянальнай. Знаходзячыся ў велізарнай эканамічнай і палітычнай залежнасці ад Расіі, яна больш клапоціцца пра стан рускага фактару на беларускай этнічнай тэрыторыі, чым пра прыродную культуру карэннага насельніцтва апошняй, што пацвярджаецца магутным панаваннем на ёй рускай прафесійнай нацыянальнай культуры, рускай нацыянальнай сістэмы адукацыі, рускай мовы. У такіх варунках нельга забяспечыць нармальнае нацыянальна-культурнае, моўнае развіццё беларускага народа, спыніць русіфікацыю. За яго зусім відавочнае этнічнае выміранне ў аднолькавай ступені нясуць адказнасць перад гісторыяй, сусветнай цывілізацыяй, як прарускай арыентацыі дзяржаўная ўлада Рэспублікі Беларусь, так і Расія, нацыянальна-культурныя стандарты якой навязваюцца беларускаму народу ўплывовымі палітыкамі і адданымі ім ідэолагамі гэтых дзвюх краін.

**Мы змагаемся за беларускую БЕЛАРУСЬ!**

# Шанец будзе толькі праз год

**Аляксандар Дашчынскі**

Сытуацыя на Беларусі напярэдадні маючых адбыцца восеньскіх выбараў -- тэма гутаркі з каардынатарам "Хартыі 97" Андрэем Саньнікавым.

КАР.: Андрэй Алегавіч, пэўны час Вы знаходзіліся за межамі Беларусі, у Жэневе, цяпер прыехалі на Беларусь. За гэты пэрыяд часу ці памянялася сытуацыя ў нашай краіне?

А.С.: Я лічу, што памянялася - і значна. За год зроблена шмат дэмакратычнымі сіламі. Цяпер апазыцыя даволі рашуча ставіцца да таго, што павінна адбыцца ў кастрычніку, - я маю на ўвазе выбары у так званую Палату прадстаўнікоў. Апазыцыя мае пэўнае бачаньне таго, што будзе адбывацца далей. Гэта азначае, што ў паводзінах апазыцыі зьявілася больш лёгікі ў тым, што трэба і можна зрабіць у гэтай сытуацыі. Зараз час надта складаны, таму што гульні ўраду й Лукашэнкі працягваюцца. Адзін з этапаў гэтых гульняў - выбары. Восень пакажа, наколькі апазыцыя, дэмакратычная Беларусь, можа супрацьстаяць рэжыму Лукашэнкі.

КАР.: Пасьля рэфэрэндуму 96-га года, вынікі якога не прызнала Эўропа, Вы сышлі ў адстаўку з ураду ўсьлед за тагачасным прэм'ерам Міхаілам Чыгіром. Цяпер Міхаіл Чыгір уключыўся ў перадвыбарчую кампанію. Як Вы ставіцеся да таго факту, што некаторыя прадстаўнікі апазыцыі пайшлі на выбары?

А.С.: Па-першае, я сышоў у адстаўку напярэдадні рэфэрэндуму і да Міхаіла Чыгіра. Я лічу: тыя, хто йдзе на выбары, марна трацяць час, таму што гэта - ня выбары. Гэта фарс, гэта спэктакль, які разыгрываюць улады. Папярэднія ж умовы, якія маглі б спрыяць правядзеньню сапраўдных выбараў, ня выканананыя. Становішча ў Беларусі не палепшылася. Няма ніякага доступу апанэнтаў рэжыму да сродкаў масавай інфармацыі, да тэлебачаньня. Няма магчымасьці друкаваць артыкулы ў дзяржаўных выданьнях. Самае галоўнае, што людзі йдуць у орган, які ня мае ніякіх паўнамоцтваў, – у Палату прадстаўнікоў. Я магу зразумець пэўныя матывы рашэньня Міхаіла Чыгіра, таму што ў яго быў вельмі складаны пэрыяд, ён у турме сядзеў, велізарны ціск на яго аказваўся. Але нават у гэтым выпадку я ня раіў бы яму траціць час на гэтакія гульні.

КАР.: Значыць, большую рацыю мае тая частка апазыцыі, якая байкатуе выбары й зьбіраецца праводзіць народны рэфэрэндум?

А.С.: Я лічу так. Я сам належу да тых, хто мяркуе - мы павінныя байкатаваць выбары, мы павінныя правесьці апытаньне насельніцтва, мы павінныя працаваць з грамадзянамі Беларусі. Апазыцыя выступае за байкот гэтых так званых выбараў, гэта ёсьць барацьба за сапраўдныя выбары, за тыя ўмовы, што былі ўзгодненыя ў АБСЭ зь іншымі міжнароднымі арганізацыямі й прынятыя ўладамі, але не былі выкананыя.

КАР.: На Ваш погляд, што павінная рабіць апазыцыя, каб не прайграць?

А.С.: Выкарыстоўваць тыя рэальныя шанцы, якія ў яе ёсьць. Восеньскія выбары - гэта нерэальны шанец для апазыцыі. Таму што гэта выбары ў падкантрольны орган, які ня мае ніякіх паўнамоцтваў. І гэта значыць, што грамадзяне Беларусі зноў страцяць магчымасьць уплываць на сытуацыю, на ўладу. Шанец для апазыцыі палепшыць сытуацыю ў Беларусі можа зьявіцца ў наступным годзе, калі павінныя адбыцца прэзыдэнцкія выбары. Да гэтага трэба рыхтавацца апазыцыі й грамадзянам. Апазыцыя павінная працаваць з усім насельніцтвам для таго, каб гэты шанец скарыстаць.



**Вельмі ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**

Моцна просім Вас не забывацца пераслаць гадавую АХВЯРУ на Выдавецкі Фонд нашае газэты. "Беларускі Дайджэст" — незалежная газэта, выдаецца толькі дзякуючы вялікай ахвярнасьці людзей добрае волі. Калі ласка, памятайце пра нас... Дзякуем!

## What is your name? Belarus!

Аляксандар ДУБРАВІН "Наша Свабода"

Як называецца наша краіна? Беларусь. Ад двух слоў: Белая Русь. Што здаецца незразумелага? Як напісана, так і гавары. Але вось расейцам вельмі хочацца называць нашу сінявокую Белоруссіяй. (Такая дыскусія распачалася ў некаторых нашых газетах). Гэтак, мауляў, у іх прынята. Яны, нібыта, гэтак гістарычна называлі нас і гэтак называць будуць, бо слова «Беларусь» імі дрэнна вымаўляецца, артыкуляцыя замінае, язык не паварочваецца, маскоўскія папы не дазваляюць. Не адпавядае, каб вы ведалі, іхнім правілам граматыкі…

Дык у мяне адразу пытанне: што гэта за славяне, якія пасля гэтага называюць сябе рускімі? Уявіце сабе: рускім людзям цяжка вымаўляць слова «Русь»! Абсурд, як той казаў. Мабыць, яны сябе з некім блытаюць. Мусіць, з мангола-татарамі, у каторых артыкуляцыя іншая. Або з яшчэ якім дзікім азіяцкім народам, які саромеецца называцца сваім сапраўдным прозвішчам, бо яно кампраметуе тысячагадовую Імперыю.

Ну й добра! Хай яны сабе ў сваёй Масковіі называюць нас Белоруссіяй, абы не звягалі і сядзелі ціхенька. Так яно, сапраўды, болей падобна на слова «Россія». (Дарэчы, чыё гэта слова? Хіба яно рускае?) Яно іх цешыць і грэе: ёсць вялікая, «ісціннaя» Россія, а ёсць маленькая і несамастойная БелоРоссія. Ну, хай сабе цешацца. Бо ім жа вельмі нялёгка пазбавіцца свайго імперскага комплексу, трэба ж і гэта разумець. Мы павінны быць далікатнымі. І паспачуваць ім трэба, і дапамагчы як псіхіятры. Гэта пройдзе з цягам часу.

Але вось жа дзіва: яны ўжо нахабна так патрабуюць, каб мы самі сябе называлі Белоруссіяй. Насмеліліся, наступаюць і голас падаюць. Называй сябе, мауляў, не беларусам, а белорусцам! Дык можа вам, «ребята», і палы памыць у вашай бруднай хаце, а? Вы зусім ужо згубілі пачуццё рэальнасці. Мусіць думаеце, што тут усе спрэс адны лукашэнкі? А калі мы пачнем вас гістарычна называць? У нас што ні казка, дык у ёй – маскаль. Што ні показка, то кацап. Млосна будзе, калі ўсю гісторыю ўспомнім.

Беларусы мы. А краіна наша – БЕЛА-РУСЬ. BE-LA-RUS! Сябе вы можаце не паважаць і называць, як вам заўгодна. А нас называйце так, як мы ад вас вымагаем. Інакш "ісціннай" дружбы ў нас не атрымаецца. Do you understand?

## Гуртуйся шчытна!

**Аляксандар ДУБРАВІН** – "Наша Свабода"

Шукаючы прычыны заняпаду нашай Беларусі ў падзеях далёкага мінулага, ў расейскай акупацыі, у геапалітычным становішчы альбо ў сучаснай здрадзе, мы, беларусы, павінны час ад часу адрывацца ад роздумаў ды крытычна аглядаць сябе з усіх бакоў у люстры. Бо, сказаць па-праўдзе, мы зараз – народ хутаранскі, не дружны, часам проста абыякавы да свайго, хай бы што там ні пісалі пра талаку альбо партызанку. Хіба ж можна добра наладзіць грамаду, калі адзін з нас, напрыклад, шчыра служыць акупанту, а другі шчыра з тым самым служакаю акупанта змагаецца? У выніку акупант збоку пазірае на нашу бойку, сала есць ды пасміхаецца. А ўжо час быў з гэтым канчаць ды пачынаць гуртавацца, калі жыць думаем. А то падужаюць нас паасобку, перакруцяць на маскалёў дзяцей нашых, ды пасядуць нам на каркі, ножкі звесіўшы. Яно, прынамсі, так ужо дзе-ндзе і парабілася.

І дзіву часам даешся, колькі злосці бывае ў аднаго беларуса да другога! Не так даўно быў я трапіў працаваць у адзін грантавы, амаль што суцэльна беларускі калектыў з сімпатычнымі хлопцамі ды прыгожымі кабетамі. Гаварылі мы між сабой на роднай мове, рабілі агульную карысную справу. Але якой атрутай палівалі яны мяне кожны дзень у вочы і за вочы, вам не перадаць! (Неяк, мусіць, я ім трапіў упоперак іхніх планаў наконт дадатковых заробкаў.) І калі я неўзабаве сышоў з таго калектыву, дык стаў проста ў два разы здаравейшы.

Дык вось мяне ўжо і не здзіўляе, што адзін беларускі паэт піша пранізлівыя радкі: «Бо чужына сэрца раніць, джаліць, як змяя…», а сам тым часам на гэтую чужыну ўцякае разам з гітарай, хоць яго тут і не шчэміць ніхто. Альбо, што адзін багаты малады беларускі пісьменнік выдае расейскія кніжкі мільённымі тыражамі, а сваіх учорашніх таварышаў накладам у тысячу экземпляраў на роднай мове выдаць грошай шкадуе. Больш таго, свае творы цісне за грантавыя грошы.

Гамон нам будзе з такой салідарнасцю. Таму мне бліжэй гэтакіх пісьменнікаў просты расейскі хлопец, які хоць і не ведае пакуль што беларускай мовы дасканала, але ўжо чацвёрты год як стаіць у пікетах і заўсёды высока трымае бел-чырвона-белы. Заўважце, не ў Брусэлі стаіць, і не на Манхэтане, а там, дзе гэта больш за ўсё сёння патрэбна. У Беларусі.

## 19 верасня, 9 гадоў таму…

***У гэты дзень дзевяць гадоў таму Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь дзвюма трацямі галасоў зацвердзіў дзяржаўнымі сімваламі нашай краіны старажытныя нацыянальныя сімвалы — герб "Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг.***

***Герб Белыя Руси издревле был всадник белый в красном поли, саблю имеючий пред собою...s***

**Васіль Таціішчаў, 1739 г.**

"Рабочы"

Гісторыя нашага герба і сцяга сягае сваімі каранямі ў сівую даўніну. Герб "Пагоня" ў летапісных крыніцах упер шыню ўпамінаецца ў канцы XIII ст.: "А Витен нача княжати над Литвою, измысли себе герб и всему князству Литовскому печать: рыцар збройный на коне з мечем, еже ныне наричут погоня". Дарэчы, рыцар з узнятым мячом скакаў і на сцягу ВКЛ.

**Выява вершніка з мячом сімвалізавала воіна, гатовага абараняць сваю радзіму ад ворага.** Зазначу, што назву "пагоня" (ад беларускага слова "гнаць, паганяць") мела і сама ваенная павіннасць па абароне дзяржавы. Паводле ўсходнеславянскай традыцыі, пасля раптоўнага нападу мужчыны пешшу і конна даганялі ворага, каб вызваліць палонных і паквітацца за забітых. Інакш кажучы, выпраўляліся ў пагоню. У адрасаванай жыхарам беларускіх земляў грамаце ад 20 лютага 1387 г. вялікі князь літоўскі і кароль польскі Ягайла пісаў: "У тым жа разе, калі давядзецца гнацца за ворагамі і непрыяцелямі нашымі, дык у гэтае сцігнаванне, што па-народнаму завецца пагоняй, абавязаныя ісці ня толькі рыцары, але і кожны мужчына, незалежна ад паходжання і багацця, абы ён здольны быў насіць зброю". Адсюль больш зразумелымі робіцца і назва герба Беларусі, і яго вытокі. Дадам, што, на думку некаторых даследчыкаў, на гербе "Пагоня" адлюстраваны паганскі бог Ярыла. Міфалагема "коннага боства", "багавершніка" была шырока распаўсюджана сярод індаеўрапейскіх народаў. З пачатку XV ст. на шчыце "Пагоні" ўжо сустракаецца шасціканцовы крыж з карацейшай верхняй перакладзінай. Такія крыжы былі тыповымі хрысціянскімі сімваламі на Беларусі ў XI — XIV стст. Канчаткова сфарміраваны, герб беларускага гаспадарства выглядаў, як пурпуровы шчыт з белым конным рыцарам. Пурпур лічыўся самым шляхетным колерам. Ён сімвалізаваў агонь, мужнасць, ваяўнічасць, ратную доблесць. Белы (срэбраны) колер азначаў у вачах нашых продкаў ваду, чысціню, дабро, незалежнасць. Золата шасціканцовага крыжа на чырвоным шчыце было сімвалам жыцця, святла, надзеі і высакароднасці.

З цягам часу ва ўсёй Еўропе з'яўляюцца дзяржаўныя сцягі, колеравая гама якіх утваралася ад гербаў. Прынцып быў такі: гербавая выява давала асноўную барву сцяга, а геральдычны шчыт — дадатковую. Наш бел-чырвона-белы сцяг, які ўзнік не пазней за пачатак XVI ст., поўнасцю адпавядае законам геральдыкі: верхняя паласа на ім — колер "Пагоні", сярэдняя — спрадвечны колер самога сцяга, а ніжняя — колер рыцарскага шчыта на "Пагоні". Найбольш старажытная выява беларускага сцягу захавалася на карціне, прысвечанай пераможнай бітве нашых продкаў з маскавітамі пад Оршай (1514).

Гаворка аб сэнсе колераў беларускага сцяга будзе няпоўнай, калі не сказаць аб яго сувязі з хрысціянскай сімволікай. Бел-чырвона-белыя стужкі мы можам бачыць на адзенні праваслаўных іерархаў. Белы колер сімвалізуе тут чыстую душу верніка, а чырвоны — слова праўды, пасеянае ў ёй праз пакуты і смерць Хрыста.

У 1918 г., з адраджэннем нашай дзяржаўнасці, герб "Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг становяцца дзяржаўнымі сімваламі Беларускай Народнай Рэспублікі. У 1991 г. адпаведная пастанова была прынятая Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь, аднак у выніку ганебнага рэферэндуму 1995 г. яна была скасавана. Тым самым дзяржава збочыла з тысячагадовага Беларускага Шляху, адраклася ад абмытых крывёю святых сімвалаў, што ўвасабляюць гераічную барацьбу нашых продкаў за незалежнасць. Аднак пройдзе час, абсыплецца таталітарнае шалупінне і спрадвечныя нацыянальныя сімвалы вернуцца з кароткачасовага забыцця, таму што, як пісаў наш славуты паэт Максім Багдановіч,

*Старадаўняй Літоўскай пагоні*
*Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.*

**Павел АБРАМОВІЧ.**



## ПАМЁР РЭДАКТАР ЕЖЫ ГЕДРОЙЦЬ

14-га верасьня 2000 году ў 23.30 у веку 94 гадоў у шпіталі мястэчка Мэзон-Ляфіт пад Парыжам памёр рэдактар Ежы Гедройць».

Постаць легендарнага польскага парыжаніна Ежы Гедройця можна бачыць з розных бакоў. Для адных — гэта шматгадовы рэдактар уплывовага польскага эміграцыйнага месячніка «Культура», вагу якога за апошнія паўстагодзьдзя цяжка пераацаніць. Для іншых — гэта рэлікт старасьвецкай арыстакратыі, апошні прадстаўнік вымерлай расы крэсавых зуброў. Для большасьці з нас, беларусаў — гэта зямляк, адзін з кагорты славутасьцяў сьвету, што нарадзіліся на нашай зямлі, у Менску эпохі рэвалюцыяў і адраджэньняў. Хочацца аднак зазначыць і іншую супольную Бацькаўшчыну — Усходнюю Эўропу, краіны і народы якой аб'яднаў у XX стагодзьдзі адзіны лёс, адзіны боль і адзінае адчуваньне свайго месца ў сьвеце — паміж Захадам і Расеяй.

Адыход аднаго з патрыярхаў Новай Эўропы станецца, мабыць, знакам заканчэньня цэлай эпохі — эпохі інтэлектуальнага супрацыву, культурнага супрацьстаяньня таталітарызму, рамантычнай эпохі падполья і дысыдэнцтва, калі дэмакратыя заставалася далёкім, чыстым і простым ідэалам, калі лёгка было зразумець – што чорнае, а што белае, што добрае, а што дрэннае. Сёньня надыйшлі іншыя часы, пара сапраўднага жыцьця з усімі ягонымі цяжкасьцямі і расчараваньнямі. Ад весткі пра сьмерць старога, дасьведчанага й мудрага Ежы Гедройця душу напаўняе самота.

**Сяргей Шупа, Вільня**

## Памерла Галіна Русак

**У сераду ўвечары 13-га верасьня гэтага году памерла, у Нью Джэрзі, ЗША, мастачка Галіна Русак. Паніхіда адбылася ў пятніцу, а пахаваньне ў cыботу. Вечная памяць!**

## Эўфрасіньня паўстане ў каменю

У Полацку пачалося будаўніцтва помніка Эўфрасіньні Полацкай паводле праекту менскага скульптара Ўладзіміра Голубева. Праект заняў другое месца на агульнабеларускім конкурсе, але быў абраны для рэалізацыі, паколькі аўтар паабяцаў знайсьці фінансаваньне, якога бракуе ў раённым і абласным бюджэтах. Такім чынам, помнік заступніцы Беларусі мяркуецца стварыць на народныя грошы.

# Лепш я буду апазыцыянэрам

Апошнім часам беларускія сродкі масавай інфармацыі сталі выстаўляць беларускую апазыцыю літаральна як ворагаў народа. Так, так! Менавіта як ворагаў... Вось прэзыдэнта, яго акружэньне... ой, прабачце за памылку: не прэзыдэнта, а кіраўніка дзяржавы. Прэзыдэнт у нашай краіне, згодна зь дзеючай Канстытуцыяй (артыкул 81), быў да ліпеня 1999 года, а цяпер у нас кіраўнік дзяржавы ці яшчэ як, але толькі не прэзыдэнт.

Дык вось: кіраўніка дзяржавы, яго акружэньне і тых, хто за яго (нягледзячы на тое, што краіна ляціць у бездань), дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі выстаўляюць як народ. А апазыцыю і ўсіх незадаволеных сёньнешнімі варункамі дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі выстаўляюць як асобаў, варожых народу. Пры дапамозе дзяржаўных СМІ улады разьдзялілі грамадзтва ў Беларусі на дзьве варожыя групы ("разделяй и властвуй"). Асабліва стараецца ў гэтым сэньсе беларускае тэлебачаньне.

Адзін малады чалавек у час так званага апытаньня насельніцтва карэспандэнтамі БТ сказаў, быццам апазыцыя парушае "спокойствие в обществе".

Прабачце, пра якое "спокойствие" можна гаварыць цяпер, калі ўсё рушыцца? Калі мы губляем дзяржаўнасьць! Калі гіне нацыя!

А адна цётка, падобна, падвучаная работнікамі БТ, так і заявіла: беларуская апазыцыя выступае супраць народа.

Ну, гэта ўжо ні ў якія вароты ня лезе! Як жа можа апазыцыя выступаць супраць беларускага народу, калі яна – частка гэтага народа, прытым лепшая яго частка! Яна складаецца з высакароднейшых людзей, гатовых у любы момант аддаць жыцьцё за свой народ. І як гэта "супраць"? Што, апазыцыя супраць таго, каб беларускі народ жыў заможна і шчасьліва? Не! Супраць гэтага выступае кіруючы рэжым, аб гэтым сьведчыць праводзімая ім палітыка.

Та што ўсе гэтыя апытаньні – фальсіфікацыя, жаданьне выставіць беларускую апазыцыю ў непрыглядным выглядзе перад насельніцтвам, каб пазбавіць даверу насельніцтва, а гэта значыць – магчымасьці змагацца за шчасьце беларускага народа.

Разважаючы над усім гэтым, я падумаў: а хто я? Мяне – грамадзянін Рэспублікі Беларусь, які не належыць ні да якіх партыяў, рухаў, суполак, да каго аднесьці? Да апазыцыі ці неапазыцыі (пад неапазыцыяй я разумею людзей, задаволеных усім, як бы ім дрэнна не было; задаволеных кіраўніцтвам, якую б палітыку яно не праводзіла)? Але чалавек павінен задумвацца над тым, чаму ён так жыве, а не інакш. Над тым, чаму менавіта на Беларусі людзі жывуць так дрэнна, у той час калі ў краінах свабоднага сьвету, дзе дэмакратыя, людзі жывуць заможна і шчасьліва. Чалавек павінен задумвацца ўвогіле над сэнсам жыцьця, змагацца за лепшае жыцьцё. Таму што, згодна з выказваньнем вялікага Гётэ, толькі той варты жыцьця і свабоды, хто кожны дзень гатовы ісьці за іх у бой.

Паразважаўшы, я аднёс сябе да той часткі насельніцтва Беларусі, да якой належыць апазыцыя. Бо мой пункт гледжаньня на тое, што адбываецца ў краіне, супадае з пунктам гледжаньня апазыцыянэраў. Адрозьненьне хіба што ў тым, што я не імкнуся да ўлады. Але жадаю, каб яна была ў чыстых руках патрыётаў бацькаўшчыны, якія дбаюць аб росквіце краіны і народу.

Мне, як і ім, не падабаецца ўнутраная палітыка кіруючага рэжыму, што вядзе да разбурэньня народнай гаспадаркі, да зьбядненьня людзей. Мне, як і ім, не падабаецца зьнешняя палітыка ўладаў, вынікам якой – ізаляцыя нашай краіны ад краін свабоднага сьвету, пазбаўленьне свабоды і незалежнасьці беларускага народа. Мне, як і ім, не падабаецца, што намі кіруе нелегітымны кіраўнік дзяржавы і прымае законы нелегітымны "парлямэнт". Мне, як і ім, не падабаецца, што з Расеяй заключаецца ваенна-палітычны саюз, у выніку якога хутка беларускія маці і бацькі будуць адпраўляць у Расію жывых і здаровых сыноў, а атрымліваць "цынкавых хлопчыкаў". Мне як і ім, не падабаецца, што саюз Беларусі з Расеяй заключаецца не па-людзку: звычайна такому саюзу павінен папярэднічаць рэфэрэндум і ў Беларусі, і ў Расеі. Падпісваць дакумэнт аб саюзе павінен легітымны прэзыдэнт і ратыфікаваць яго – легітымны парлямэнт. Гэтага няма. А гэта значыць, што і "шлюб" Беларусі з Расеяй не сапраўдны, а фіктыўны.

Мне, як і апазыцыі, не падабаецца, што яшчэ да канчатковага заключэньня "няроўнага шлюбу" з Расеяй, нашыя грошы (не "зайцы", а безумоўна, даляры) ужо адлічаныя ў бюджэт неіснуючай саюзнай дзяржавы, ужо існуе і корміцца па поўнай праграме на гэтыя грошы на пасадзе дзяржсакратара неіснуючай дзяржавы чалавек, якога адшуквае швайцарская паліцыя. Які лёс чакае нашую краіну ў сувязі з гэтым "аб'яднаньнем", здагадацца ня цяжка.

Як бачыце, усе мае перакананьні супадаюць зь перакананьнямі апазыцыі. Яны адрозьніваюцца ад перакананьняў той часткі насельніцтва, якая лічыць, што беларусы яшчэ могуць цярпець, таму што "ў вайну было яшчэ горш". Я ж лічу, што ні ў якім разе ня трэбы допускаць, каб Беларусь дайшла да такога стану, "як у вайну", -- калі людзі мільёнамі гінулі ад голаду, ад хвароб, ад куль, ад бомб, ад снарадаў.

Я лічу, што цярпець ужо хопіць: чакаць, што існуючае кіраўніцтва зробіць для нас лепшае жыцьцё, бессэнсоўна (шэсьць гадоў чакалі). Трэба рашуча браць свой лёс у свае рукі!

"Хартыя '97" **Яўген Філіповіч**, жыхар пас. Гарадзішча, Менскага раёна.

# МІЖНАРОДНЫЯ НАЗІРАЛЬНІКІ НЕ ПРЫЕДУЦЬ НА ВЫБАРЫ

Як вядома, гэтая канферэнцыя (праходзіла яна ў Вене) аналізавала ўмовы правядзення дэмакратычных парламенцкіх выбараў на Беларусі. Удзельнікі канферэнцыі заслухалі даклады дэлегацый беларускага ўраду і Кансультатыўнай рады апазыцыйных партый.

Адразу пасля вяртання з Вены кіраўнікі дэлегацыі беларускай апазіцыі Анатоль Лябедзька і Вінцук Вячорка сустрэліся з журналістамі.

У апазіцыі няма доступу да тэлебачання і радыё, таму яна не мае магчымасці аператыўна даносіць да людзей свае ацэнкі. Тым часам насельніцтву беспярапынна ўкладаецца ў вушы: міжнародная супольнасць выбары прызнае, тут будуць яе прадстаўнікі... Між тым, як падкрэслілі лідэры АГП і БНФ, усё не зусім так. А дакладней — зусім не так.

Нідзе ў дакументах АБСЕ не ідзе размова пра прыезд да нас *міжнародных назіральнікаў* за выбарамі. Момант вельмі істотны. Менавіта пра дасыл міжнародных назіральнікаў прасіў Лукашэнка Хаўера Салану. Менавіта за тое, каб гэты тэрмін хаця б раз быў узгаданы ў рашэннях Аб'яднанай Еўропы адчайна змагалася афіцыйная беларуская дэлегацыя. Менавіта гэтага дамагаліся салідарныя з імі прадстаўнікі Парламенцкай Асамблеі СНД. Але менавіта гэтых слоў старанна пазбягалі еўрапейскія парламентарыі.

У чым тут юрыдычная тонкасць? Тое, што падчас выбараў ў Беларусь рэжым запросіць нейкіх прадстаўнікоў ад Зюганава, Фідэля Кастра і іншых такога ж кшталту дзеячоў зразумела. Зразумела і тое, што яны будуць важна называць сябе "міжнароднымі назіральнікамі". Але ў свеце вельмі патрабавальна ставяцца да таго, каго лічыць сапраўднымі назіральнікамі, а каго не. Рэальнымі лічацца паўнамоцтвы толькі некалькіх міжнародных інстытуцый — напрыклад, таго ж АБСЕ.

Якраз гэтых, рэальных, міжнародных назіральнікаў на Беларусі не будзе. А хто будзе? Будзе "тэхнічная місія АБСЕ" і яе эксперты. Людзі з задачай некалькі іншай, чым проста міжнародны кантроль за выбарамі — яны павінны ацэньваць беларускую сітуацыю ў цэлым. Будуць удзельнікі "Парламенцкай тройкі" ў якасці "прадстаўнікоў сваіх інстытуцый" (запісаную ў канчатковым дакуменце ангельскую фармулёўку можна перакладаць па-рознаму, гэта і стварае магчымасць спрэчак) — з той жа мэтай: даць аб'ектыўную ацэнку выбарам. А яшчэ ў прынятым дакуменце адзначана: "Рэкамендацыі могуць быць перагледжаны ў выпадку паляпшэння або пагаршэння сітуацыі на Беларусі".

Чыя тут перамога і чыя параза? Анатоль Лябедзька лічыць так: калі параўноўваць з падзелам, напрыклад акцый на прадпрыемстве, дык іх за апазіцыяй засталося 80 працэнтаў, а за ўладай — 20. З гэтага, адзначыў ён, зусім не вынікае, што зараз можна супакоіцца: праз пэўны час усе 100 працэнтаў акцый могуць апынуцца ў Лукашэнкі. А могуць — у апазіцыі. Час пакажа. Дарэчы, рашэнне наконт "тэхнічных экспертаў" Вінцук Вячорка пракаментаваў вось як: гэта вельмі добра, што яны будуць, людзі ўбачаць, што тут робіцца. Адну толькі забарону святкавання бітвы пад Оршай у Мінску эксперты ўжо могуць пазначыць са знакам "мінус" для рэжыму.

Крыху пра тое, што засталося "па-за кадрам". Лукашэнкаўская каманда не здолела б дабіцца і сваіх 20 працэнтаў, калі б не расійская "група падтрымкі": наяўнасць у зале дэлегацыі ад Асамблеі СНД, ліст міністра замежных спраў Расіі Іванова да калег з АБСЕ, званкі Селязнёва да еўрапейскіх парламентарыяў... Дарэчы, СНД-оўцы спрабавалі блакіраваць некаторыя пункты прынятай рэзалюцыі — але беспаспяхова. Калі ўлічыць, што "каманда апазіцыі" на падобных форумах — гэта звычайна адзін-два, рэдка тры чалавекі, а супраць іх кідаюцца такія сілы плюс дэлегацыя беларускага МЗС, — вырашайце самі, хто працуе больш эфектыўна, і чаму нашы ўлады не могуць даказаць сваю правату без падтрымкі цяжкавагавых саюзнікаў.

**Сяргей МАНАСТЫРСКІ.**

ТАБЛІЦА МЭДАЛЯЎ

| Краіна | З | С | Б | Сум |
|---|---|---|---|---|
| United States | 26 | 15 | 23 | 64 |
| Russia | 17 | 15 | 20 | 52 |
| China | 22 | 14 | 14 | 50 |
| Australia | 12 | 20 | 12 | 44 |
| France | 12 | 13 | 8 | 33 |
| Germany | 5 | 11 | 16 | 32 |
| Italy | 11 | 6 | 11 | 28 |
| Britain | 6 | 8 | 5 | 19 |
| South Korea | 5 | 6 | 8 | 19 |
| Romania | 10 | 4 | 4 | 18 |
| Netherlands | 8 | 5 | 3 | 16 |
| Japan | 5 | 6 | 4 | 15 |
| Ukraine | 3 | 7 | 5 | 15 |
| Cuba | 3 | 6 | 2 | 11 |
| Belarus | 1 | 1 | 8 | 10 |
| Poland | 4 | 4 | 1 | 9 |
| Bulgaria | 4 | 3 | 2 | 9 |
| Sweden | 4 | 3 | 1 | 8 |
| Switzerland | 1 | 5 | 2 | 8 |
| Greece | 2 | 4 | 1 | 7 |
| Canada | 1 | 1 | 5 | 7 |
| Czech Republic | 2 | 1 | 3 | 6 |
| Indonesia | 1 | 3 | 2 | 6 |
| Brazil | 0 | 4 | 2 | 6 |
| Hungary | 3 | 1 | 1 | 5 |
| Spain | 3 | 0 | 2 | 5 |
| Slovakia | 1 | 3 | 1 | 5 |
| Finland | 2 | 1 | 1 | 4 |
| Lithuania | 2 | 0 | 2 | 4 |
| New Zealand | 1 | 0 | 3 | 4 |
| Belgium | 0 | 2 | 2 | 4 |
| Austria | 2 | 1 | 0 | 3 |
| Mexico | 1 | 2 | 0 | 3 |
| Ethiopia | 1 | 0 | 2 | 3 |
| Denmark | 0 | 2 | 1 | 3 |
| Jamaica | 0 | 1 | 2 | 3 |
| North Korea | 0 | 1 | 2 | 3 |
| South Africa | 0 | 1 | 2 | 3 |
| Taiwan | 0 | 1 | 2 | 3 |
| Georgia | 0 | 0 | 3 | 3 |
| Iran | 2 | 0 | 0 | 2 |
| Slovenia | 2 | 0 | 0 | 2 |
| Turkey | 2 | 0 | 0 | 2 |
| Croatia | 1 | 0 | 1 | 2 |
| Latvia | 1 | 0 | 1 | 2 |
| Kenya | 0 | 1 | 1 | 2 |
| Norway | 0 | 1 | 1 | 2 |
| Armenia | 0 | 0 | 2 | 2 |
| Costa Rica | 0 | 0 | 2 | 2 |
| Estonia | 0 | 0 | 2 | 2 |
| Azerbaijan | 1 | 0 | 0 | 1 |
| Colombia | 1 | 0 | 0 | 1 |
| Mozambique | 1 | 0 | 0 | 1 |
| Argentina | 0 | 1 | 0 | 1 |
| Ireland | 0 | 1 | 0 | 1 |
| Moldova | 0 | 1 | 0 | 1 |
| Nigeria | 0 | 1 | 0 | 1 |
| Trinidad/Tobago | 0 | 1 | 0 | 1 |
| Uruguay | 0 | 1 | 0 | 1 |
| Yugoslavia | 0 | 1 | 0 | 1 |
| Alegeria | 0 | 0 | 1 | 1 |
| Barbados | 0 | 0 | 1 | 1 |
| Iceland | 0 | 0 | 1 | 1 |
| India | 0 | 0 | 1 | 1 |
| Kyrgyzstan | 0 | 0 | 1 | 1 |
| Kuwait | 0 | 0 | 1 | 1 |






Гэты падлік мэдалёў за 27-га верасьня, 2000. Напярэдзе яшчэ значныя зьмены...

# СПЫНІЦЬ НАСТУП ДЫКТАТУРЫ

**(Заява Старшыні Вярхоўнага Савету Беларусі на прэс-канфэрэнцыі 19-га вервсьня ў Вільні)**

Як ужо неаднаразова паведамлялася, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь лічыць рэальным выхадам з канстытуцыйнага крызісу, які склаўшагася ў Беларусі пасьля дзяржаўнага перавароту (лістапад 1996 г.), канструктыўныя перамовы паміж усталяваўшымся ў краіне рэжымам і апазыцыйнымі яму сіламі. У сувязі з гэтым я яшчэ раз хачу выказаць удзячнасьць кіраўніцтву АБСЕ і іншых міжнародных арганізацыяў, а таксама парлямэнтам і ўрадам цывілізаваных краін, якія з самага пачатку не прызналі легітымным так званы лістападаўскі (1996 г.) рэфэрэндум і падтрымалі Вярхоўны Савет як адзіны заканадаўчы і вышэйшы прадстаўнічы орган на тэрыторыі Беларусі. Хацеў-бы адзначыць і тую вялікую працу, якую правялі КНГ, Рабочая Група АБСЕ па Беларусі і Тройка Прадстаўнікоў АБСЕ, Эўрапарляманту і Парляменцкай Асамблеі Савету Эўропы па падрыхтоўцы перамоў аб правядзеньні ў Рэспубліцы Беларусь свабодных дэмакратычных парляменцкіх выбараў.

Аднак, як Старшыня Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь і кіраўнік Беларускай дэлегацыі Парляменцкай Асамблеі АБСЕ, заяўляю, што надуманыя выбары ў так званую "Палату", якія дыктатарскі рэжым зьбіраецца правесьці ў Беларусі ў кастрычніку 2000 году, ня могуць лічыцца легітымнымі з самага пачатку.

Па-першае, дадзеныя выбары прызначаны грамадзянінам А. Лукашэнка, тэрмін прэзыдэнцкіх паўнамоцтваў якога скончыўся 20 ліпеня 1999 году і супраць рэжыму якога ўзбуджана крымінальная справа па факту захопу ўлады неканстытуцыйным шляхам.

Па-другое, ад арганізацыі выбараў адхілена законна ўтвораная Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь Цэтральная выбарчая камісія на чале з дэпутатам Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь Віктарам Ганчаром, а іх правядзеньне даручана групе асобаў, якую ўзначальвае Л. Ярмошына, прызначаная на сваю пасаду былым прэзыдэнтам Рэспублікі Беларусь яшчэ да так званага рэфэрэндуму (лістапад 1999 г.) у парушэньне Канстытуцыі і дзеючага заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

Па-трэйцяе, па віне дыктарскага рэжыму так і не пачаліся трохбаковыя перамовы па стварэньню ў краіне ўмоў для правядзеньня свабодных дэмакратычных выбараў, ужо ня кажучы аб тым, што не выканана ні адна з умоў для правядзеньня гэткіх выбараў, распрацаваных і ўзгодненых паміж прадстаўнікамі выканаўчых уладаў, аб'яднанай апазыцыі, кіраўніцтвам КНГ АБСЕ і Рабочай Групай АБСЕ на чале з А. Севярынам. Больш таго, менавіта ў час перамоваў да зьнікнення раней былога Міністра ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь Юрыя Захаранкі, прыбавілася зьнікненьне яшчэ і Першага намесьніка Старшыні Вярхоўнага Савету, Старшыні ЦВК Рэспублікі Беларусь Віктара Ганчара, вядомага бізьнесоўца Анатоля Красоўскага і журналіста Зьміцера Завадзкага. Пры гэтым нагадаю, што адной з умоў арганізацыі парляменцкіх выбараў зьяўляецца атрыманьне адказу ад сілавых структураў аб лёсе і месцазнаходжаньні зьніклых, што ня зроблена да сёньняшняга дня.

Працягваюцца зьдзекі над сям'ёю вядомага палітыка М. Чыгіра. Рэпрэсаваліся ў прыяд перамоваў іншыя актыўныя прадстаўнікі апазіцыі рэжыму, у тым ліку адбылося судзілішча над дэпутатам Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь Андрэем Клімавым, падвяргаліся адміністрацыйным арыштам дэпутат Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь, член Парляменцкай Асамблеі АБСЕ Анатоль Лябедзька і дэпутат Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь Валеры Шчукін. Працягвае заставацца ў месцах зьняволеньня ў свой час арыштаваны і асуджаны з парушэньнем заканадаўства Рэспублікі Беларусь дэпутат Вярхоўнага Савету Уладзімір Кудзінаў. I гэта ў той час, калі адной з умоў правядзеньня выбараў таксама прадугледжвалася спыненьне рэпрэсіяў супраць іншадумцаў.

Па сутнасьці не выконваецца і ўмова дасупу прадстаўнікоў апазыцыі да сродкаў масавай інфармацыі.

Нічога істотнага ня зроблена і па правядзеньню выбарчага заканадаўства ў адпаведнасьць з міжнароднымі нормамі права і Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Надуманыя і арганізованыя рэжымам выбары плянуецца правесьці ў кішэнны ворган дыктатара, які нават ня мае заканадаўчай ініцыятывы, не гаворачы ўжо пра ўладныя функцыі.

Пад прыкрыцьцём перамоў дыктатар і створаны ім прарасейскі і па сутнасьці акупацыйны ў адносінах да беларускага народу рэжым працягвае рабіць сваю злачынную справу — вычышчаць урад Беларусі ад беларусаў, далей змыкацца з прадстаўнікамі шавіністычных колаў Расеі і кіраўнікамі камуністычнай экстрымісцкай плыні, якія ставяць сваёй задачай інкарпарацыю Беларусі ў склад Расейскай Федэрацыі. Гэта асабліва небясьпечна яшчэ і таму, што ў самой Расеі сёньня да ўлады прыйшло КГБ і ўсталёўваецца дыктатарскі рэжым.

Усё гэта сьведчыць аб тым, што ніякага прагрэсу па выкананьні трохбаковых умоў для правядзеньня свабодных і дэмакратычных выбараў у Беларусі не адбылося. I зусім не зразумела, як яго маглі знайсьці на Трэйцяй Тэхнічнай Канферэнцыі АБСЕ ў Вене.

У сучасны момант з боку дыктатарскага рэжыму, як гэта і трэба было чакаць, зьдзяйсьняецца падман пры інфармаваньні насельніцтва Беларусі па Рэкамендацыях і Заключэньню Трэйцяй Тэхнічнай Канферэнцыі АБСЕ, якая адбылася ў Вене 30 жніўня 2000 году. Яе рашэньне па накіраваньні ў Беларусь тэхнічнай місіі падаецца людзям як рашэньне АБСЕ прысласць на выбары паўнавартасных міжнародных наглядальнікаў і што нібыта аўтаматычна прывядзе да прызнаньня гэтых выбараў легітымнымі.

Нажаль, трэба прызнаць, што гэткай хлусьні з боку дыктатарскага рэжыму садзейнічае адсутнасьць прынцыповай ацэнкі Тэхнічнай Канфэрэнцыі АБСЕ рэальнага становішча ў Беларусі і прыняцьце ёю рашэньня накіраваць на выбары ў Беларусь тэхнічнай місіі з незразумелымі для насельніцтва паўнамоцтвамі.

У сувязі са сказаным, я зьвяртаюся да Старшыні Парляменцкай Асамблеі АБСЕ, кіраўніка Рабочай Групы АБСЕ па Беларусі спадара Адрыяна Севярына перагледзець, згодна з пунктам 10-м Заключэньня і Рэкамэндацыяў Тэхнічнай Канферэнцыі АБСЕ, рашэньні, якія былі прыняты 30 жніўня 2000 году.

Пакуль ня позна, трэба спыніць наступ дыктатуры ў Беларусі!

*Сямён Шарэцкі*

# Настольная кніжка для беларускіх мужчынаў

Леанід ГАЛУБОВІЧ "Наша Свабода"

**Усё-такі пэўная справядлівасць і на гэтым свеце бывае. Скажам, выключылі са школьных праграмаў творчасць Ларысы Геніюш, не выдаюць яе і не ўспрымаюць на дзяржаўным узроўні – затое выдавецтва «Кнігазбор» парадавала беларускага чытача і выпусціла ў сьвет яе «Выбраныя творы».**

Па-першае, том, як заўжды, густоўна аформлены і якасна аддрукаваны; па-другое, у кніжцы ёсць усё, што выяўлена за апошні час у спадчыне слыннай паэткі.

Па вялікім рахунку Ларысу Геніюш трэба было б называць Паэтам. З-за мужнасці яе жыцця і творчасці. Вытрываць тое, што выпала ёй, ня кожнаму беларускаму мужчыну пад сілу. I дысідэнцтва, і жыццё за мяжою, і вайна, і сталінскія лагеры, і бальшавіцкія здзекі ды знявага да самых апошніх яе дзён…

Яна і адышла з гэтага «асэсэсэрнага свету», так і не прыняўшы яго грамадзянства.

Сьвет, апісаны Ларысай Геніюш, – суровы, але дарэшты праўдзівы. З дапамогай Максіма Танка ды іншых добрых людзей савецкім часам выйшлі толькі два яе паэтычныя зборнікі («Невадам з Нёмана», 1967 г. і «На чабары настоена», 1982 г.). Безумоўна, тое, што «выбрала» цэнзура ці, як больш паблажліва называлі гэтае кэдэбэшнае ведамства, – «галоўліт».

Як на мой погляд, то дакументальна-аўтабіяграфічная проза Ларысы Геніюш «Споведзь» увогуле не мае аналагаў у беларускім пісьменстве XX стагоддзя. Можна смела сказаць, што гэта настольная кніжка для будучых беларускіх мужчынаў. Зрэшты, і сённяшнім варта ў яе зазірнуць, хоць, бадай, і запозна ўжо…

У 1948 годзе Ларысу Геніюш, прывезеную пад канвоем з Чэхіі ў БССР, дапытваў сам міністр рэспубліканскай дзяржбяспекі Цанава. Як ён пырскаў сліною і шалеў ад злосці, калі паэтка папрасіла яго размаўляць з ёю на роднай беларускай мове! Ці ж не тое і сёння?! Шкада толькі, што нават у звычайных надзённых сітуацыях сярод жыхароў Беларусі ўсё большае першых і менее другіх…

Нядаўна, выступаючы на Радыё Свабода, вядомы наш філосаф і культуролаг Валянцін Акудовіч, разважаючы пра феномен кніжкі ў сучасным грамадстве, няўзнак заўважыў, што, калі б, крый Божа, паўтарыўся 37-ы год, то цяперашніх літаратараў садзілі б у самую апошнюю чаргу, бо – за што?!

О, як аператыўна, у адзін прысест, абурыліся яны на гэтае вольнае выказванне! Тут жа папрасілі слова ў адказ, і Генадзь Бураўкін, які ўвесь час, хоць з кім-небудзь, ды думае пра Беларусь, перавярнуўшы ўсё з ног на галаву, грозна выклаў сваё рэзюме: маўляў, адзін Замяталін сядзіць у адміністрацыі прэзідэнта Лукашэнкі, а другі, вось, завёўся ў літарацкім асяродку, – і заклікае сённяшні рэжым найперш садзіць менавіта беларускіх пісьменнікаў…

Аднак жа і з бураўкінскай інтэрпрэтацыі вынікае тое самае: за што, радзімыя?!

Слухаеш, назіраеш за ўсім гэтым і думаеш: няма на вас, таварышы, – не, не Цанавы! – Ларысы Геніюш…

У 1966 годзе пісала яна Максіму Танку так: «Я не міруся з гэтым, не магу, я не іду з імі на кампраміс! Здаецца, маю ворагаў, а дзіўна! Некалі мой следавацель-яўрэй казаў: «Ну, что вы за человек, я не нашел в Праге и в Белоруссии на вас свидетеля…» Цяпер, я думаю, знайшліся б…»

Не сумняваюся.

А ўвогуле, калі вярнуцца да самой кніжкі, то гэта найбольш поўны аб'ём творчай спадчыны выдатнай нацыянальнай паэткі. Тым больш, што кніжка выдрукаваная без цэнзурных правак і скарачэнняў, а некаторыя тэксты друкуюцца ўпершыню. Агулам жа ў аднатомніку змешчаныя вершы, паэмы, дакументальная проза і лісты. Наклад не надта каб вялікі, а кошт для такога аздобнага выдання – прымальны. Адным словам, хто парупіцца – той мецьме.

Складальнік кніжкі і аўтар прадмовы – зямляк Ларысы Геніюш паэт Міхась Скобла. А дапамаглі выданню пабачыць свет сваімі спонсарскімі ўнёскамі і Беларуская служба Радыё Свабода, і шмат якія асобы як з нашай Айчыны, так і з замежжа.

Скажам ім усім – шчыры дзякуй. А самі – чытайма ды мужнейма. Каб быць беларусамі.

# Прадукцыя для разумнага беларуса

Людзі, якія карыстацца камп'ютэрамі, нарэшце атрымалі магчымасць чытаць рэдкія і недаступныя ў продажы беларускія кнігі. Першыя дыскеты з беларускамоўнай мастацкай і навукова-папулярнай літаратурай паступілі на штодзённую выставу Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны (Мінск, вул. Румянцава, 13). Высокаякасная дыскета *Verbatim* 3,5 змяшчае каля 2.000 кніжных старонак сярэдняга фармату — гэта 7—10 важкіх кнігаў. Апроч таго, што такая дыскета разгружае кніжныя паліцы, яна, што таксама важна, зберагае грошы, бо папяровых варыянты твораў каштуюць у сукупнасці непараўнальна даражэй. Дыскеты падыходзяць для выкарыстання на любым камп'ютэры. Цікаўныя могуць прачытаць на першай дыскетцы (выдрукаваць пры жаданні цалкам ці выняткамі) эсэ Ігната Абзіраловіча, вершы Славаміра Адамовіча, даследаванні Міколы Ермаловіча і Сымона Брагі, апавяданні Уладзіміра Караткевіча, раман «Пагоня на Грунвальд» Канстанціна Тарасава, кнігі з серыі «Нашы славутыя землякі», выдатную працу гісторыка Генадзя Сагановіча «Невядомая вайна» ды шмат што іншае. Дыскетную «бібліятэку» абяцаюць папаўняць кожны тыдзень, а таксама даць спажыўцу дыскеты з гукам.

# Невядомыя старонкі беларускага паходу

17 верасьня — дзень узьяднаньня Заходняй і Ўсходняй Беларусі. Летась да 60-й гадавіны падзеі былі перавыдадзеныя плякаты, што выяўляюць палкія абдымкі беларускага вяскоўца і савецкага жаўнера: "Ты з Заходняй, я з Усходняй нашай Беларусі, Больш з табою ўжо ніколі я не разлучуся…". 17 верасьня пачаўся беларускі паход Чырвонага войска, які цягнуўся да 25 верасьня. Дзевяць дзён, якія зьмянілі назаўжды жыцьцё цэлага рэгіёну. Ня будзем сёньня абмяркоўваць, што несьлі "вызвольнікі з Усходу". Сёньня ў "НН" – пра ваенныя падзеі таго часу.

Савецкі Саюз пачаў рыхтавацца да вайны яшчэ ўвесну 1938 г., калі сканцэнтраваў на заходніх рубяжох значную колькасьць войска. 1 верасьня 1939 г. нападам нямецкай арміі на Польшчу распачалася другая сусьветная вайна, а ўжо 3 верасьня наркам абароны Клім Варашылаў выдаў дырэктыву "Аб павышэньні баявой гатоўнасьці ў заходніх вайсковых акругах: Ленінградзкай, Маскоўскай, Калінінскай, Кіеўскай, Менскай". На наступны дзень абвесьцілі мабілізацыю маладых людзей, народжаных у 1918—21 г., у Чырвоную Армію.

7 верасьня 1939 г. на базе вайсковых груповак на заходніх межах былі створаныя Беларускі і Ўкраінскі франты. Камандарм Міхаіл Кавалёў стаў камандуючым Беларускага фронту, які складаўся з чатырох армій, стралковага корпусу, кавалерыйска-механізаванай і авіяцыйных групаў і шматлікіх спэцаддзелаў. На 17 верасьня ён налічваў 200 тыс. чалавек, а на пачатак кастрычніка — 700 тыс.

Польскае вайсковае кіраўніцтва да апошняга моманту ня верыла ў магчымасьць нападу Савецкага Саюзу. Naczelny wodz польскага войска Рыдз-Сьміглы ў сваіх дырэктывах яшчэ летам 1939 г. рэкамэндаваў сваім падначаленым засяродзіць ўвагу на абароне заходніх межаў. А ў сярэдзіне верасьня, калі нямецкія войскі захапілі большую частку этнічнай Польшчы, краіна рыхтавалася да вайны з гітлераўцамі на сваіх усходніх крэсах: стваралiся адмысловыя вайсковыя групы, якія мусілі абараняць Вільню, Горадню, Беласток, Берасьце, Пінск, нават стаўка Рыдз-Сьміглага дзеля гэтага была перанесеная ў Берасьце, Пінск, потым — у Давыд-Гарадок.

Аднак у 4 раніцы 17-га войскі Беларускага і Ўкраінскага франтоў перайшлі мяжу. У ноч на 17 верасьня ў Маскве ў наркамат замежных спраў быў выкліканы польскі пасол Гжыбоўскі, каб атрымаць ноту савецкага ўраду, у якой адзначалася: "Польская дзяржава перастала існаваць, і Савецкі Саюз перайшоў усходнюю польскую мяжу, каб узяць пад сваю абарону заходнебеларускія і заходнеўкраінскія землі". Усхваляваны амбасадар ня здолеў і слова выціснуць зь сябе, аднак катэгарычна адмовіўся прыняць ноту.

Другая Рэч Паспалітая была асуджаная на паразу, ваяваць на два франты было немагчыма. Трэ было рашаць, што рабіць далей. Пад вечар 17 верасьня Рыдз-Сьміглы разаслаў дырэктыву, у якой казалася: „Саветы перайшлі мяжу. Загадваю агульнае адступленьне ў бок румынскай і вугорскай мяжы найкарацейшымі шляхамі. З бальшавікамі ў баі не ўступаць, хіба толькі ў выпадку нападу зь іхнага боку альбо спробы раззбраеньня імі нашых аддзелаў".

Польскія фармаваньні паводзілі сябе па-рознаму. Адны змагаліся з чырвонымі войскамі. Іншыя выконвалі загад Рыдз-Сьміглага і прабіваліся да румынскай і мадзярскай межаў — найперш гэта тычылася аддзелаў, разьмешчаных на ўкраінскай тэрыторыі. Вайсковыя часткі, што знаходзіліся на Заходняй Беларусі, аказаліся закладнікамі сітуацыі: сысьці на паўднёвыя межы яны не пасьпявалі, таму перад імі было тры варыянты: ці скласьці зброю, ці змагацца з новым акупантам, ці адыходзіць у Літву. У баёх з Саветамі ўдзельнічалі батальён "Клецак", полк "Вялейка", кавалерыйскі эскадрон "Краснае", батальён "Будслаў".

Фактычна бяз бою была здадзеная Вільня. У горадзе на 17 верасьня сабралася 14 тыс. жаўнераў, дзевяць няпоўных батальёнаў пяхоты, эскадрон кавалерыі, эскадрон вэлясыпэдыстаў, сапёрнае падразьдзяленьне і дзьве батарэі артылерыстаў. Толькі 7 тыс. жаўнераў былі ўзброеныя. На нарадзе вайсковых камандзіраў было вырашана падпарадкавацца дырэктыве Рыдз-Сьміглага, зьберагчы жаўнераў і адступіць з войскамі ў яшчэ незалежную Літву. Толькі невялікая колькасьць жаўнераў аказала супраціў савецкім войскам.

Два дні абаранялася Горадня. Напачатку горад быў без абаронцаў — раскватараваных тут жаўнераў на пачатку верасьня ўсіх накіравалі на нямецкі фронт, і толькі ў другой дэкадзе месяца ў Горадню пачалі прыбываць войскі. Напачатку гэта былі два неўкамплектаваныя батальёны і некалькі дзясяткаў афіцэраў, што пазьбеглі нямецкага палону. 17 верасьня кіраўніком абароны Горадні (натуральна, ад немцаў!) быў прызначаны генэрал Юзаф Ольшын-Вільчынскі, праз два дні яго зьмяніў генэрал Сядлецкі. У ноч з 19 на 20 верасьня ў горад прыбылі 101-шы і 102-гі палкі уланаў, ужо былі сфармаваныя абарончыя групы з вучнёўскай моладзі, найперш з навучэнцаў гімназій імя Адама Міцкевіча і Генрыка Сянкевіча. 19 верасьня стала зразумелым, што абараняць горад прыйдзецца ад бальшавікоў.

Раніцай наступнага дня першыя танкавыя савецкія аддзелы перайшлі мост церазь Нёман. Добраахвотніцкая група з гімназістаў закідала іх бутэлькамі з запальнай сумесьсю; глядзячы на посьпех вучняў, да іх далучыўся атрад з паліцыянтаў і жаўнераў. Савецкія танкі былі зьнішчаныя на Дамініканскай вуліцы, вуліцы Гувэра, пляцы Батуры. Агулам было зьнішчана каля 20 танкаў, а некалькі танкістаў былі ўзятыя ў палон. Танкавая калёна мусіла часова адступіць. Пасля палудня пачаліся больш рэгулярныя атакі на горад. З 20 на 21 верасня баі ішлі ўздоўж Нёмана. Да вечара 20-га верасьня ў Горадню прыбылі два цягнікі з польскім войскам (часткамі 19 запаснай дывізіі пад кіраўніцтвам Зыгмунта Блюмскага), якое далучылася да абароны. Але сілы былі няроўныя. З раніцы 21 верасьня камандаваньне абаронай гораду пастанавіла эвакуавацца. Значная частка жаўнераў адступіла на аўтамабілях і цягніках ў бок Літвы. Насельніцтва ж гораду адрэагавала на такія дзеяньні крайне нэгатыўна. Вайсковыя часткі, якія засталіся ў горадзе, працягвалі абараняцца ў старым каралеўскім замку, у кашарах 81 полку стральцоў. Толькі 22 верасьня супраціў Горадні быў зламаны.

Да 25 верасьня ўся Заходняя Беларусь апынулася пад савецкай уладай. У выніку тыднёвага паходу Саветы на 25 верасьня захапілі, па мінімальных падліках, каля 60 тыс. чалавек палону. Гэта былі ня толькі жаўнеры, але і паліцыянты, студэнты, харцары і інш. Найбольш іх трапіла ў палон каля Вільні, Ашмяны, Баранавічаў. 21 верасьня Міхаіл Кавалёў выдаў загад пра арышт усіх польскіх афіцэраў і жаўнераў. Многія зь іх навечна лягуць у зямлю пад Катыньню і Асташкавам. Агулам за паўтара году пад рэпрэсіі ў Заходняй Беларусі, паводле вельмі прыблізных падлікаў, падпала больш за 120 тыс. чалавек.

Страты Чырвонай Арміі на беларускім фронце склалі 316 чалавек забітымі, 916 параненымі. 22 верасьня 1939 г. у Берасьці адбыўся сумесны парад нямецкіх і савецкіх войскаў. Польскай дзяржаве 5 гадоў прыйдзецца існаваць у падпольлі.

Алег Гардзіенка – **"Наша Ніва"**

# Вандроўка па Слонімшчыне з Уладзімірам Ягоўдзікам

На днях завітаў да мяне з Мінска на сваім "Фольксвагене" пісьменнік Уладзімір Ягоўдзік.

— Чаго сядзіш, сумуеш? Давай паедзем у вандроўку па нашай Слонімшчыне,— прапанаваў зямляк.

Мы селі ў машыну і паціху паехалі ў бок Васілевіч.

— Як творчыя справы, Вало-дзя?— запытаўся ў яго.

— Справы ідуць някепска. Тры запар кніжкі выйшлі з друку. Апошняя называецца "Царэўна ў падземным царстве". Сюды я ўключыў казкі, сабраныя рускім вучоным-фальклярыстам Аляксандрам Афанасьевым. Яны былі запісаныя ім на Гродзеншчыне і Магілёўшчыне, — сказаў пісьменнік.

— А як "пажываюць" твае часопісы? Ты ж рэдагуеш "Бярозку" і выдаеш свой уласны часопіс "Лесавік"?

— Неяк трымаемся. Выйшаў нядаўна чацвёрты нумар "Лесавіка". Ён прысвечаны чорнаму зайцу. Так-так, не здзіўляйся,— пачаў казаць зямляк.— Вадзіліся некалі на Беларусі чорныя зайцы. Яны яшчэ трапляліся ў пачатку XX стагоддзя. Пасля іх не стала, як не стала ў нашых лясах і пушчах тураў, балотнай рысі, дзікіх коней тарпанаў і іншых звяроў.

Размаўляючы, мы неяк хутка праехалі Васілевічы, пасля Парэчча. Павярнулі да Шчары, дзе здалёк віднелася царква. Якое цудоўнае там месца! Некалі гэта была зямля нашага славутага земляка, беларускага сацыял-утапіста Міхала Валовіча. Ён у 1833 годзе ўдзельнічаў у Заліўскай экспедыцыі з мэтай узняць паўстанне ў Польшчы, Беларусі і Літве супраць расійскага царызму. Па загаду Мураўёва-вешальніка Валовіча арыштавалі і закатавалі ў Гродне. Удзячныя землякі каля Парэцкай царквы паставілі яму помнік, які бальшавікі знішчылі дзесьці ў 1940 годзе.

У заняпад прыйшла і праваслаўная цэркаўка. Мы ўбачылі вакол яе і ў сярэдзіне рыштаванні. Быў час, калі хацелі яе рэстаўрыраваць. Але праца даўно спынілася і рыштаванні пачарнелі ад часу. А храм прыходзіць у заняпад. Шкада. Знішчаецца не толькі памяць пра Валовіча, але і наша гісторыя. Толькі Шчара не спыняе свой бег. Праўда, і яна зусім не тая, якая была, калі жыў Міхал Валовіч.

З Парэчча мы паехалі ў вёску Ніз. Пры дарозе віднеліся вясковыя могілкі. Спынілі машыну. Пайшлі далей пяшком. На могілках прыцягнуў увагу памятны знак. У гады Вялікай Айчыннай вайны фышысцкія карнікі расстралялі 296 жыхароў вёскі Ніз, а мужчын забралі ў Германію. Пасля і вёску спалілі. Ахвярам вайны і пастаўлены помнік на нізоўскіх могілках.

З Нізоў па гравейцы мы даехалі да Едначоў. Каля гэтай вёскі працякаюць дзве рачулкі Язвіца і Бяроза.

— Вельмі прыгожа гэтыя рэчкі апісаў Баброўскі ў сваёй кнізе "Статистическое описание Гродненской губернии 1863 года",— гаворыць Уладзімір Ягоўдзік.— Я маю ксеракопію гэтай кнігі. Вельмі цікавая і каштоўная кніга. Там шмат напісана пра нашу Слонімшчыну.

мы спыніліся каля хаты Лапко Івана Антонавіча — дзядзькі Ула-дзіміра. Даўно памерла яго жонка, цяпер жыве з сынам. Хоць і засталіся яны без гаспадыні, але па-ранейшаму трымаюць курэй, парсючка, садзяць агарод. Зусім нядаўна Іван Антонавіч перажыў цяжкае гора — у аўтамабільнай катастрофе загінуў яго другі сын.

Мы прыселі на лаўку каля хаты, і спадар Лапко пачаў апавядаць пра свой нялёгкі лёс. З яго слоў мы даведаліся, што ў вайну немцы разам з іншымі вяскоўцамі вялі яго на расстрэл. Але Іван уцёк у лес, гэта і выратавала яго ад смерці. Праўда, пазней быў вывезены ў Германію, дзе працаваў у баўэра. І толькі пасля вайны вярнуўся ў Едначы.

Паспрабаваўшы "белага наліву" з маладзенькай яблыні, мы развіталіся з Іванам Антонавічам і паехалі ў Кастровічы — родную вёску Уладзіміра Ягоўдзіка. Ён тут даўно ўжо не жыве, але памятае кожны дом, завулак, агарод. Тут прайшло яго маленства. "А вось гэта мая хата, я тут нарадзіўся і жыў",— узрушаны мой сябра, паказваючы на адну з вясковых хат.

— А цяпер хто там жыве?— пытаюся.

— Чужыя людзі — дачнікі. Я нават і не ведаю хто,— адказаў Валодзя.

З вясковай вуліцы мы накіраваліся на кастровіцкія могілкі да магіл маці, дзядулі і бабулі Уладзіміра Ягоўдзіка. Побач з магіламі растуць два дубкі і бярозка. Іх некалі пасадзіў сам Валодзя.

Мы паціху ехалі па Кастровічах, а Валодзя ў машыне гаварыў пра сваю вёску і расказваў, хто дзе жыве. Вёска, сапраўды, багатая на таленты. Адсюль пачынаецца знакаміты род Кастравіцкіх. З гэтага роду выйшаў беларускі паэт Карусь Каганец і класік французскай паэзіі Гіём Апалінэр (Кастравіцкі). Дарэчы, Гіёму Апалінэру ў канцы жніўня Францыя адзначыць 120-годдзе.

Мой спадарожнік Уладзімір Ягоўдзік таксама даволі вядомая асоба ў літаратурных колах. Ён з'яўляецца аўтарам каля дваццаці кніг прозы,

*(Працяг на стар. 12)*

З АРХІЎНАГА КУФРА...

Беларускі хор у Нью Ёрку, ЗША, у 1952 годзе. Кіраўнічка хору — Галіна Ганчарэнка-Руднік (сядзіць у сярэдзіне). Здымак з калекцыі Спд. Ю. Андрусышын.

казак, успамінаў і п'ес.

Пасля Кастровіч наш шлях ляжаў на Сяньkоўшчыну, Ягнешчычы, Казловічы, Елку, Сынковічы. Што-што, а храм XV-XVI стагоддзяў у Сынковічах мы абмінуць ніяк не змаглі. Святое месца на Беларусі. Царква ў Сынковічах была зачынена. Мы пахадзілі вакол яе, сфатаграфаваліся на памяць. А пасля Валодзя дастаў з сумкі сваю кнігу "Сем цудаў Беларусі" і пытае:

— Ты мне можаш назваць сем цудаў Беларусі?

— Можна назваць і больш, чым сем,— кажу.

— Вядома, можна. А я вось напісаў і выдаў кніжку менавіта пра сем цудаў Беларусі. Адзін з гэтых цудаў — Сынковіцкая царква. Ты ведаеш, хто яе будаваў?— зноў пытаецца сябра.

— Здаецца, князь Вітаўт,— адказваю.

— Уцякаючы ад Ягайлавых служак, князь Вітаўт знайшоў сховішча недалёка ад Слоніма, у ціхай лясной вёсачцы пад сялянскай страхой. Потым, перачакаўшы варожую пагоню, сабраў надзейнае войска, пачаў перамагаць Ягайлу і ўрэшце стаў адзіным уладаром Вялікага княства Літоўскага. Праз дваццаць пяць гадоў пасля ўратавання ад немінуючай пагібелі, вялікі князь загадаў пабудаваць у вёсачцы каля Слоніма храм: у знак удзячнасці Богу і тутэйшым людзям, якія захавалі яму жыццё. Невядомыя таленавітыя дойліды выканалі Вітаўтаву волю і паднялі да нябес Сынковіцкую царкву-крэпасць. Больш падрабязна ты прачытаеш пра ўсё ў гэтай маёй кніжцы,— сказаў Уладзімір Ягоўдзік. Ён дастаў ручку і пакінуў на кнізе "Сем цудаў Беларусі" мне свой аўтограф.

Мы доўга яшчэ сядзелі каля Сынковіцкага храма, разважаючы пра нашу багатую гісторыю і пра наш народ. А пасля надвячоркам вярнуліся ў Слонім.

Вандроўка з Уладзімірам Ягоўдзікам мне спадабалася. Які багаты і прыгожы наш край, а мы, жывучы побач, часам гэтага не заўважаем. Будзённасць і абыякавасць да ўсяго, губляюць у нашых сэрцах любоў да сваёй маленькай радзімы, а тым больш да такой, як наша Слонімская зямля.

**Сяргей ЧЫГРЫН**, "Газэта Слонімская"

## НАМ ПІШУЦЬ...

Дасылаем Вам віншаваньне для беларусаў ЗША з нагоды 10-годзьдзя ЗБС "Бацькаўшчына", калі магчыма, то надрукуйце ў Вашай газэце.

ШАНОЎНАЕ СПАДАРСТВА!

Шчыра вітаем сяброў Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" і ўсіх руплівцаў на ніве захаваньня беларускай прысутнасьці ў сьвеце з 10-годзьдзем вашай адданай працы ў МГА "ЗБС" "Бацькаўшчына". Неацэннае значэньне мае гэтая падзея ў справе яднаньня беларускай нацыі. ЗБС сталася прыкладам адной з першых сапраўды дэмакратычных, заснаваных на шырокай грамадзкай і нацыянальнай ініцыятыве арганізацыяў у постсавецкай, посттаталітарнай Беларусі. Беларусы на Бацькаўшчыне і беларусы замежжа, незалежна ад поглядаў і перакананьняў, аб'ядналіся дзесяць гадоў таму, каб сумеснымі намаганьнямі паскорыць працэс нацыянальнага адраджэньня, будаўніцтва сувэрэннай нацыянальнай дзяржавы.

Толькі ад нас беларусаў на Бацькаўшчыне і ў дыяспары — ад нашай мудрасьці і самаахвярнасьці, цьвёрдасьці і рашучасьці залежыць дабро і мір, росквіт нашай Бацькаўшчыны. У штодзённай, жмуднай і непрыкметнай працы нараджаюцца вялікія справы, гартуецца наша воля, расьце перакананасьць, што Беларусь перажывае цяжкія часіны, што Магутны Бог дапаможа беларускаму народу займець лепшую долю.

Зычым вам, суродзічы і землякі моцнага здароўя, шмат сілаў для добрай і плённай працы, памыснасьці ва ўсіх справах.

Спадзяемся, што разам мы зробім шмат карыснага для Беларусі.

ЗБС жыве, ЗБС з надзеяй глядзіць у будучыню і шырока разгортвае сваю дзейнасьць. Бо, як казаў наш пясьняр Янка Купала, пакуль жыве хоць адзін беларус у сьвеце — жыве Беларусь.

Жыве Беларусь!

Прэзыдэнт МГА "Бацькаўшчына"
*Радзім Гарэцкі.*

### Каму патрэбна дапамога ў Адэляйдзе?

У сярэдзіне 2000 году ў Аўстраліі зарэгістравана новая беларуская арганізацыя — Беларускае Гістарычнае Згуртаваньне ў Аўстраліі, (БГЗА). Асноўным напрамкам у яе дзейнасьці зьяўляецца збор архіўных матарыялаў як відных беларусаў Аўстраліі, так і беларускіх арганізацыяў. Працаваць старшынёю БГЗА ўзяўся айцец Міхась Бурнос, чалавек які ведае гісторыю беларускага нацыянальнага жыцьця ў Паўднёвай Аўстраліі не як наглядач, а як адзін з найбольш актыўных удзельнікаў у рэлігійным і грамадзкім жыцьці беларускай грамады ў Адэляйдзе.

Такія беларускія арганізацыі ў Аўстраліі, як Беларускі Цэнтральны Камітэт у Вікторыі на чале з старшынёю сп. П. Гузам, Фэдэральная Рада беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі пад кіраўніцтвам сп. Аўгена Грушы, Беларускае Аб'яднаньне ў Заходняй Аўстраліі з сп. М. Раецкім, Беларускае Аб' яднаньне ў Паўднёвай Аўстраліі — дапамаглі ня толькі фінансава, але даслалі і вельмі бадзёрыя лісты, актыўна падрымліваючы ініцыятыву стварэньня беларускай гістарычна-архіўнай арганізацыі ў Аўстраліі.

Просьба аб дапамозе была таксама даслана і парафіі Б.А.П.Царквы ў Адэляйдзе. На вялікі жаль адказ быў адмоўным... Чаму? Аб гэтым можна многа пісаць, але ці варта?...

Сакратар БГЗ, *Віктар Кавалеўскі.*

## НОВЫЯ БЕЛАРУСКІЯ ВЫДАНЬНІ.

У верасьні мы атрымалі наступныя выданьні:

1. КАМУНІКАТ — Бюлетэнь Беларускай Рэдакцыі Радыё Паленія, № 2/2000/12, 32 бач. Варшава, Польшча

2. БЕЛАРУСКІЯ ВЕДАМАСЬЦІ, № 3(26), 2000, 20 бач. Варшава, Польшча

3. WEISSRUSSLAND UND DEUTSCHLAND, Geistes- und Kulturbeziehungen zwischen 1914 und 1941.
Band 1: Bibliographie, von Uładzimir Sakałoúski, 2000, 323 s. Böhlau Verlag, Germany

**У верасьні 1991-га году**
**бел-чырвона-белы сьцяг і гэрб Пагоня**
**ізноў сталі дзяржаўнымі знакамі**
**незалежнай Беларусі.**
**Шануйма-ж іх!**

**КУРС ДОЛАРА**




